# Гаспадар

НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

КАСТРЫЧНІК, 1991 ГОД


ЧЫТАЙЦЕ:


2 СЬВЯТАЯ ЕФРАСІНЬНЯ
3 МІЦКЕВІЧАВА АЙЧЫНА
5 БЕЗ РЫДЛЁЎКІ
6 ТАННЫЯ БУДАЎНІЧЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ
7 „ЗДАРОВЫ" ЛОЖАК
8 ПАГРУЗЧЫК
9 ЧАГО БАЯЦЦА ПАПЯЛУШКІ?
10 ЧЫМ КАРМІЦЬ МУЖЧЫНУ?
11 МОДА. ВОСЕНЬ-91.


Максім БАГДАНОВІЧ

## ПАГОНЯ

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, -
Ўспомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!

У бязьмежную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі - гады,
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі Цябе, адракліся,
Прадалі й аддалі у палон?

Бійце ў сэрцы іх - бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, ты прымі свайго сына
За Цябе яму ўмерці дазволь!

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!



*Гэты малюнак Міхася Шостака падаем з нагоды гістарычнага рашэньня Вярхоўнага Савета БССР аб назве, сьцягу і гербе Рэспублікі Беларусь.*

Здымак С. Сержпутоўскага. Час. „Міс'ёнаж"

## «Любімось, мае суседзі!»*

Чацьвёртае паломніцтва Сьвятога Айца Яна Паўла Другога, падчас якога Папа наведаў мясцовасьці Усходняй Польшчы - Жэшуў, Пшэмысьль, Любачуў, Беласток, Ломжу - мела экуменічна-місійны накірунак. Сьвяты Айцец тлумачыў сучаснае разуменьне дзесяці Божых прыказаньняў, даў прыклад разуменьня існасьці іншага чалавека, прыняцьця яго такім, які ён ёсьць, шанаваньня яго ўнутранай незалежнасьці, свабоды, яго рэлігіі ды нацыянальнасьці.

5 чэрвеня Сьвяты Айцец Ян Павал Другі наведаў Беласток, дзе апоўдні на мясцовым аэрадроме правёў урачыстае богаслужэньне з удзелам некалькіх соцень тысячаў вернікаў, сярод якіх былі і пелігрымы з Беларусі. Падчас гэтай літургіі Сьвяты Айцец кананізаваў Маці Баляславу Марыю Лямэнт (1862-1946). Маці Баляславу называлі пры жыцьці „апастолам Усходу". Яна спрычынілася да экуменічнага збліжэньня каталікоў і праваслаўных, у прыватнасьці і на Беларусі, дзе ў Магілеве заснавала Згуртаваньне Сёстраў місіянерак Сьвятога Сямейства.

Блаславёная Маці Баляслава стала патронкай хрысьціянскіх месіянераў ва Усходняй Еўропе.

Папа абвясьціў пра ўтварэньне двух новых польскіх дыяцэзій: з той часткі Віленскай архідыяцэзіі, каторая знаходзілася ў сучасных межах Польскай Рэспублікі, створана Беластоцкая; ды з аналагічнай часткі Пінскай дыяцэзіі вылучана Драгічынская (над Бугам). Гэтае рашэньне Сьвятога Айца па нармалізацыі касьцельнай адміністрацыі шмат хто параўноўвае з нармалізацыяй падобных установаў Заходніх Земляў Польшчы, калі ФРГ прызнала існуючыя дзяржаўныя межы і выраклася тэрытарыяльных прыкасяў (прэтэнзіяў) у адносінах да Польшчы.

А другой палове дня Папа Ян Павал Другі спаткаўся з праваслаўнымі сьвятарамі і вернікамі ў праваслаўнай катэдры Сьвятога Мікалая. Падчас гэтай абедні, якая адпраўлялася на царкоўнаславянскай мове, Папа меў прамову. Сьвяты Айцец заклікаў усіх узаемна прызнаць уласную віну за цяжкасьці ў каталіцка-праваслаўных адносінах і прыкласьці намаганьні, каб іх пераадолець. Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава закрануў „уніяцкае пытаньне", што сталася „каменем, аб які спатыкаецца экуменічны дыялог". Але дыялог усё ж адбыўся, больш таго, падчас спатканьня пацьвердзілася воля абодвух бакоў канчаткова перамагчы разыходжаньні ды цяжкасьці.

* Загалоўкам артыкула зьяўляецца радок з верша Янкі Купалы, што заўсёды гучыць актуальна і адлюстроўвае найвышшыя намаганьні кожнага народа, кожнай нацыі.

НАВУКОВАЯ СЕНСАЦЫЯ!

## ЗАДУМАЙСЯ!

**Калі ты не ясі сьняданьня, табе пагражае інфаркт!**

*Гэта сапраўдная сенсацыя! Канадзкая вучоная доктар Рэната Ціткова зрабіла адкрыцьцё, якое можа ратаваць людзей: залежнасьць паміж спажываньнем сьняданьня і... інфарктам сэрца!*

*Вучоныя ўжо даўно задумваліся над тым, чаму на працягу дзьвюх першых гадзінаў пасьля абуджэньня чалавека сардэчныя прыпадкі здараюцца ў два разы часьцей, чым у пазьнейшую пару.*

*Доктар Ціткова сьцьвярджае, што інфаркт пагражае перш за ўсё тым, хто не есьць сьняданьня! Праводзячы досьледы над згусьценьнем крыві, дакладней, фактарам „бэта-тэгэ", яна адкрыла, што пацыенты, якія шматразова мелі нармальны ўзровень, раптам выявілі адхіленьне ад нормы. Удзельнікі эксперыменту прызналіся, што менавіта ў гэтыя дні яны не зьелі сняданьня... Гэта схіліла доктара да правядзеньня спецыяльных тэстаў.*

*Гэтыя ж самыя пацыенты ў вызначаныя дні былі абсьледаваныя нашча, у іншыя ж дні - пасьля яды. Узровень фактара „бэта-тэгэ" быў у сярэднім два разы вышэй у тыя дні, калі яны зранку былі галодныя. Ужываючы непрафесіянальную, але больш зразумелую тэрміналогію, можна сьцьвярджаць, што згусьценьне крыві расло ў тых, хто адмаўляўся ад сьнедання. Гэта значыць, крыві, як і кіслароду, трапляла ў сэрца менш. Па гэтай прычыне ўзрастае рызыка прыпадкаці інфаркта.*

*Доктар Ціткова і яе калегі не заўважылі ўплыву віду харчаваньня на вынікі тэсту. Важным быў толькі сам факт спажываньня ежы. Вынікі сваіх дасьледаванняў урач абвясьціла на навуковай канферэнцыі ў Вашынгтоне. Яе выступленьне было сустрэта з велізарнай зацікаўленасьцю.*

*Спадзяемся, што вынікі дасьледаваньняў, праведзеных у Канадзе, стануць імпульсам для далейшых пошукаў і чарговых адкрыцьцяў. Мы, вельмі сур'ёзна трактуючы вынікі доктара Цітковай, ужо ад сёньняшняга дня вырашаем уставаць на 15 хвілін раней, каб перад выхадам на працу мець час перакусіць. Вас, дарагія чытачы, мы таксама заахвочваем да гэтага.*

*Урэшце, ці можа нам пашкодзіць зычлівасьць да ўласнага сэрца?*

## «Электрычны чалавек»

Прапагандыст тэхнікі Гендрых Ван Лоон у сваёй кніжцы „Стократны чалавек" напісаў: „Найболей безабароннае стварэньне, не маючае на сабе поўсьці, якая б аберагала яго ад холаду і дажджу, не маючае іклаў і пазуроў, крыльляў, як птах... аднак жа зьяўляецца ўладаром сьвету. Чаму? Бо навучылася вынаходзіць".

Таксама найлепшы ў Еўропе знаўца гісторыі тэхнікі, аўтар кнігі „Машыны ў гісторыі чалавецтва" Ф. М. Фельдхаўз сьцьвярджае, што „вынаходнік ад найдаўнейшых часоў зьяўляецца першынцам культурнага поступу". Але адразу ж дадае: „Не заўсёды дамагаецца ён карысьці ад сваёй творчай працы. Было б памылкай верыць, што заўсёды віталі яго як героя, як збавіцеля. Амаль заўсёды лічылі яго нежаданым бунтаром, яго высьмейвалі ці стараліся зьнішчыць".

І ў гісторыі нашага народу такіх прыкладаў аж занадта. У лепшым выпадку яны аддавалі свой талент іншым народам. Аднак пераважна гэтым сынам Беларусі не далі магчымасьці паслужыць чалавецтву. Адзін з найболей трагічных лёсаў - у вынаходніка „падводнага чаўна" (падводнай лодкі) менскага мешчаніна Аляксандра Чарноўскага.

Ураджэнец Беларускага Паднятроўя Казімір Семяновіч, якому належыць ідэя (і чарцёж) шматступенчатай ракеты, які ўпершыню прыдумаў двух- і трохлапасны стабілізатар для ракеты, толькі ў Галандыі змог выдаць сваю кнігу „Вялікае мастацтва артылерыі". (Амстэрдам, 1650). Мы амаль нічога не ведаем пра нашага таленавітага земляка Аляксандра Маліноўскага, вядомага толькі паводле лістоў У. І. Леніна да яго, называемага ўсюды Багдановым. А між іншым філосаф Аляксандр Маліноўскі быў заснавальнікам навукі кібернэтыкі, пісьменьнікам-фантастам...

Апярэдзіў час сваімі навуковымі досьледамі і адкрыцьцямі наш блізкі, з Стаўбцоўска-Капыльскага сумежжа, зямляк Якуб Наркевіч-Ёдка. Ён яшчэ ў 1892 годзе вынайшаў спосаб фатаграфаваньня біяполя чалавека і атрымаў электраграфічныя выявы не толькі жывых істотаў ды расьлінаў, але і нежывой прыроды - усяго 1500 здымкаў. Два здымкі з той калекцыі, перададзеныя нам навуковым супрацоўнікам інстытута гісторыі АН Беларусі Вольгай Анатолеўнай Гапоненка (дзякуем спадарыні Вользе!), вы бачыце побач. Артыкул пра Якуба Наркевіча-Ёдку надрукаваны на 12 старонцы.



*О, сьвятая й слаўная апякунка й асьветніца народу Беларускага, Маці нашая, Еўрасіньня! Глянь ласкавым вокам сваім на братоў і сёстры Твае, што зь любоўю й надзеяй вочы душаў сваіх да Цябе падымаюць. Ты не засудзіла нас, што мы ў няволі сваёй доўгі час не маглі славіць Цябе ў цэрквах сваіх сьвятога імені Твайго...*

*З „Малітвы да Сьв. Еўрасіньні"*



# *Патронка Беларусі*

*Нарэшце цяпер, у час вялікага Адраджэньня майго народу, вяртаецца Беларусу яго сапраўдная гісторыя. І ён, прайшоўшы цяжкі гістарычны шлях, вяртаючы сваю чалавечую і нацыянальную годнасьць, з непаўторным пачуцьцём зьдзіўленьня і радасьці, адкрывае для сябе забытыя ці наўмысна захаваныя імёны, якія ўзбагацілі не толькі айчынную, але і сусьветную культуру. Сярод іх ярка і велічна зьзяе імя Сьвятой Ефрасіньні, асьветніцы і падзьвіжніцы кніжнай справы на Беларусі, адной з самых адукаваных жанчын Еўропы XII ст., зьбіральніцы і апякункі талентаў. Доўгі час, асабліва апошнія 73 гады камуністычнага рэжыму сьвятыні Беларусаў адбіраліся, хаваліся ці пакрываліся хлусьнёй. Тое было і зь імем Сьвятой Ефрасіньні, якое шчыльна хавалася за шыльду рэлігійнай дзяячкі альбо нават цемрашалкі. У большасьці сваёй яно не прыгадвалася ўвогуле.*

*Так патрэбна было, каб з народу зрабіць паслухмяны натоўп, бо калі народ страчвае сваю духоўную спадчыну, то паступова губляе і пачуцьцё нацыянальнага „я", а, значыць, становіцца разьяднаным і безабаронным. Такі народ лёгка перамагчы, ім проста кіраваць, ператвараючы яго зямлю ў вялікую нарыхтоўчую кантору, што і сталася з Беларусьсю.*

*Але чалавек створаны Богам, ён адраджаецца, вяртаючы ў сваю гістарычную сьвядомасьць тысячы імёнаў сыноў і дачок Бацькаўшчыны, хто ахвярна служыў яе вячыстай славе. Вяртаецца і імя патронкі нашае зямлі – Ефрасіньні Полацкай.*

*Гісторыя не захавала пра яе багатыя зьвесткі: паміж намі – восем стагодзьдзяў, але і тое, што дайшло да нас, дазваляе ўсьвядоміць еўрапейскую значнасьць асобы асьветніцы. Яе дзейнасьць разам з ахвярнай працай сучаснікаў – Кірылы Тураўскага і Клімента Смаляціча сьведчыць пра высокі ўзровень культурнага разьвіцьця нашых продкаў.*

*Прадслава (такім было сьвецкае імя Ефрасіньні) была ўнучкай слаўнага полацка-крыўскага князя Усяслава Чарадзея. Змалку выказала такія здольнасьці да навукі, што дзівіла сваіх бацькоў. Слава аб прыгажосьці і адукаванасьці маладой князёўны разнеслася далёка за межы Полацкага княства, і шмат хто з акалічных князёў пачаў шукаць яе рукі. Але яна цішком уцякае ў жаночы манастыр і выказвае жаданьне зрабіцца Хрыстовай нявестай. Пад імем Ефрасіньні прымае пострыг і пачынае служыць асьвеце роднай зямлі – „нача книгы писати своими руками". Гэтай працай займаліся толькі мужчыны, і ўжо тое, што жанчына вырашыла заняцца такой цяжкай справай, інакш як подзьвігам не назавеш. Грошы, атрыманыя за перапісаныя і распаўсюджаныя кнігі, Ефрасіньня раздавала бедным.*

*Але, жывучы за магутнымі манастырскімі сьценамі, Ефрасіньня не была адарваная ад сьвецкага жыцьця і прымала чынны ўдзел у асноўных палітычных падзеях таго часу. Надзеленая ясным розумам і моцнай воляй, яна мела вялікі ўплыў на вырашэньне палітычных пытаньняў Полацкага княства, зьяўлялася своеасаблівым сьцягам змаганьня палачанаў за незалежнасьць.*

*Князёўна рупліва, крок за крокам, пашырала асьвету ў родным краі: заснавала жаночы, а пазьней і мужчынскі, манастыры, дзе пад яе кіраўніцтвам дзейнічалі майстэрні па перапісваньню кніг, сваёй педагагічнай дзейнасьцю дала новы штуршок разьвіцьцю школ на Беларусі. Школы, заснаваныя асьветніцай, мелі перадавую для свайго часу праграму навучаньня, а значную частку вучняў складалі дзеці небагатых бацькоў.*

*І, безумоўна, невыпадковы той факт, што ўздым разьвіцьця духоўнай і матэрыяльнай культуры Полацкай зямлі якраз прыпадае на гады руплівай працы Сьвятой Ефрасіньні. Яна выступала ў ролі зьбіральніцы талентаў, на якія так багатая беларуская зямля.*

*Спаская царква, пабудаваная па заказу Ефрасіньні, – адзіны храм на Беларусі, у якім фрэскі XII стагодзьдзя захаваліся амаль поўнасьцю. Помню, вельмі ўразілі аповяды ўдзельнікаў амерыканскага ансамбля „Васілёк" пра паездку ў Полацк. Яны там, далёка за акіянам, ведалі пра цуд, які належыць беларускай зямлі, – фрэскавыя размалёўкі XII ст., імкнуліся пабачыць яго, каб яшчэ раз адчуць сваю еднасьць з зямлёй продкаў. Яны дзівіліся ім, але, адчувалася, сорамна ім было за нас, хто жыве на гэтай зямлі і ад каго залежыць, ці будуць надалей вабіць вока фрэскі Спаскай царквы, сорамна, бо шмат хто з нас нават і не ведае, што Беларусь валодае такім узорам мастацтва, пра якія з гонарам гаварыла б любая еўрапейская нацыя. І да гэтага часу чую недаўменныя воклічы нашых суайчыньнікаў з Амерыкі: „Ці можна так? Французы, італьянцы... ганарацца фрэскамі ХУ–ХУІ стагодзьдзяў, а тут – XII-ае! І ніхто пра іх не ведае..." Гэта дакор нам і ад сьвятой Ефрасіньні, якая жыцьцё прысьвяціла зьбіранню талентаў і пакінула пасьля сябе выдатныя помнікі дойлідства, што перажылі стагодзьдзі. Ці перажывуць яны XX стагодзьдзе, зь яго мільённымі ахвярамі прывіднай тэорыі камунізма, з жахлівым разбурэньнем храмаў, з руйнаваньнем маралі і прыстойнасьці? Але, паўтаруся, нягледзячы на цяжкасьць і супрацьдзеяньне „власть имущих" МЫ АДРАДЖАЕМСЯ як нацыя, значыць, ёсць надзея, што зробленае Ефрасіньняй захаваецца і дойдзе да нашых нашчадкаў.*

*У фондах Рускага музея ў Ленінградзе захоўваецца старажытны абраз Боскай Маці, вядомы пад назваю Адзігітрыя Полацкая. Гэты абраз па просьбе князёўны прыслалі ў Полацк грэчаскі імператар Мануіл Комнін і патрыярх Лука Хрысаверх. На думку многіх дасьледчыкаў, абраз зьяўляецца самым раньнім узорам іканаграфічнага тыпу Адзігітрыі (у перакладзе з грэчаскай – Пуцяводнай) на ўсходне-славянскіх землях. Такія помнікі маюць надзвычай вялікае значэньне, бо менавіта зь іх пачынаецца мастацкая традыцыя[1].*

*Зь імем Ефрасіньні Полацкай зьвязана непарыўна і стварэньне полацкім ювелірам Лазарам Богшам славутага крыжа – шэдэўра старажытнабеларускага мастацтва. Крыж быў зроблены па заказе Ефрасіньні для Спаскага манастыра ў 1161 годзе. Праца полацкага майстра не саступае лепшым узорам візантыйскага прыкладнога мастацтва, якія мелі сусьветную славу[2]. За сваю гісторыю крыж захоўваўся ў розных месцах, апошні яго прыстанак – Магілеў, будынак былога зямельнага банка, адкуль яго, паводле афіцыйнай версіі, у 1941 годзе выкралі фашысцкія захопнікі. Далейшы лёс крыжа невядомы. Будзем спадзявацца, што наша нацыянальная сьвятыня калісьці вернецца на Радзіму.*

*Перыяд асьветніцкай дзейнасьці Ефрасіньні доўжыўся амаль паўстагодзьдзя. Пад канец жыцьця з сваёй сястрой і братам Давыдам выправілася яна ў Палестыну. Па дарозе пабывала ў Канстанцінопалі. Дасягнуўшы Ерасуліма, Ефрасіньня дала ў дар храму гроба Хрыстова залатую кадзільніцу. У Ерусаліме захварэла і памерла.*

*Пасьля сьмерці была кананізавана праваслаўнай і каталіцкай царквой.*

*Цяпер астанкі асьветніцы захоўваюцца ў Спаскай царкве Спаса-Ефрасіньнеўскага манастыра ў Полацку.*

*У гэтым годзе ў траўні адбылася першая ў Беларусі пілігрымка. Уніяцкая моладзь ішла ад Оршы да Полацку, каб пакланіцца мошчам патронкі Беларусі, каб зьвярнуцца да сьвятой заступніцы нашай з малітваю. Некалькі груп, што ішлі рознымі маршрутамі, сустрэліся каля Полацкай Сафіі, адкуль пачынаўся хрэсны ход да Ефрасіньні. З малітвамі, іконамі, харугвамі прыйшла моладзь да манастыра, дзе пакоіцца прах асьветніцы. Але... але вернікаў да яе не пусьцілі. Нягледзячы на папярэднюю дамоўленасьць. Вось такія рэаліі жыцьця, шаноўныя браткі-беларусы. На роднай зямельцы вы не гаспадары. Беларусаў на Беларусі да беларускай сьвятой не пусьцілі. Не маюць яны права пакланіцца сьвятым мошчам і адправіць службу ў яе гонар на роднай мове, бо ніхто ж у манастыры, падначаленым Рускай праваслаўнай царкве, не зьвяртаецца да Ефрасіньні ў малітвах на зразумелай ёй роднай беларускай мове.*

*Таму прашу ў Цябе даравання і яшчэ раз зьвяртаюся з малітваю-просьбаю: „...а Ты Сьвятая Эўфрасіньня Полацкая – патронка Беларусі – ды ўсе сьвятыя заступнікі Беларускага Народу, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам сьвятым, выконваючым Волю Божую і сваё пасланство, каб прычыніліся да агульнага дабра тут на зямлі, а ў прышлым жыцьці атрымалі вечнае шчасьце, і Табе, прадвечнаму Валадару, прыносілі славу, чэсьць і паклон на векі вечныя. Амін.* ***(З „Малітвы за Беларускі Народ" // Божым шляхам. Рым. 1946. С. 59.).***

***Ліля ПЛЫГАЎКА.***

[1] У. Арлоў. Асветніца з роду Усяслава. Мн., 1989. С. 36.

[2] Штыхов Г. В. Древний Полоцк. Мн., 1975. С. 111.

# *БОЖЫМ ШЛЯХАМ*

## Молімся па-беларуску

***Знак крыжа сьвятога***

*У імя Айца і Сына, і Духа Сьвятога. Амін.*

***Малітва Гасподняя***

*Ойча наш, каторы ёсьць у небе, сьвятым будзь імя Тваё, прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая як у небе, так і на зямлі; хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня; і адпусьці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым; і не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога. (Тваё бо ёсьць валадарства і сіла, і слава на вякі вякоў.) Амін.*

***Апостальскі склад веры***

*Веру ў Бога Айца Ўсемагутнага, Тварца неба і зямлі; і ў Ісуса Хрыста, Сына Яго адзінага, Госпада нашага, які быў пачаты ад Духа Сьвятога, нарадзіўся з Дзевы Марыі; замучаны пры Понцкім Пілаце, памёр і быў пахаваны; зышоў у пекла, трэцяга дня ўстаў зь мёртвых; узышоў на неба, дзе сядзіць па правай руцэ Айца Ўсемагутнага; адтуль прыйдзе судзіць жывых і памёршых. Веру ў Духа Сьвятога, Сьвятую Каталіцкую Царкву (Касьцёл), супольнасьць сьвятых, адпушчэньне грахоў, зь мёртвых устаньне, жыцьцё вечнае. Амін.*

***Малітвы да Сьвятой Тройцы***

*Усесьвятая Тройца зжалься над намі; Госпадзе, ачысьці грахі нашы; Уладару, даруй бясчынствы нашы; Сьвяты, наведай і аздараві немачы нашы; дзеля Твайго імя.*

*Надзея мая – Айцец; заступніцтва маё – Сын; пацяшэньне маё – Дух Сьвяты; Тройца Сьвятая, слава Табе.*

***Паводле „Кароткага катэхізму хрысьціянскае навукі для беларусаў каталікоў".***

ДА СТАГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

## Апокрыф

1. Ад Максіма Кніжніка пачатак...

2. Калі скончылася сем тысяч год ад стварэньня сьвету, Хрыстос зноў зышоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым казалі прарокі.

3. І хадзіў ён па ўсяму нашаму краю: і па Міншчыне, і па Віленшчыне, і па Магілеўшчыне і па Задзьвінскай зямлі.

4. І разам зь ім былі Сьвяты Пётра і Сьвяты Юры. Але ніхто зь людзей не пазнаваў яго.

5. Бо ішлі яны босымі нагамі, зь непакрытымі галовамі, і былі адзеты ў белы кужаль. А не таго спадзяваліся людзі.

6. Таму ніхто не зьвярнуў увагі на іх, калі ў час жніва праходзілі яны між працуючых людзей.

7. Толькі музыка, катораму цяпер не было што рабіць, падышоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сягоньня дзень працы і ўсе клапоцяцца каля яе; адзін я нікчэмны чалавек.

8. І адказаў яму Ісус: не смуціся ў сэрцы сваём. Ці ж не твае песьні сьпяваюць яны цяпер у часе жніва? Таму не схіляй нізка галавы тваёй і не хавай твар свой ад вачэй людзкіх.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты – лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе: вось надойдзе да яго гадзіна горачы – і чым ён разважыць смутак свой, апроч песьні тваёй? Таксама і ў дзень радасьці ён прызавець цябе.

10. І, паўчаючы яго, казаў: пад песьні кладуць чалавека ў калыску і са сьпевамі ж апускаюць у магілу яго.

11. Штодзеннымі клопатамі поўна людзкое жыцьцё. Але калі зварухнецца душа чалавека, толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць нават жабы ў багне. А ці ж не лепшымі будзеце вы ад іх?

13. Так вучыў Хрыстос. Але Пётра, пачуўшы яго словы, сказаў: Вучыцелю, у гэтай староны ёсьць людзі, каторым няма чаго есьці. Ці ж не сьціснецца ад сораму сэрца гэтага чалавека, калі ён да іх, шукаючы скарынкі хлеба, прыдзе з песьняй сваёй?

14. І, адказваючы яму, сказаў Хрыстос: так, жыцьцё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму ж ты хочаш яшчэ і красу адабраць у іх? Мала дадзена ім – няўжо ж трэба, каб было яшчэ меньш?

15. І, зьвярнуўшыся да музыкі, спытаў яго: калі пяюць песьні ў вас?

16. Музыка ж адказаў: пяюць на Каляды, на Запусты, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўку, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах і хрэсьбінах; пяюць, дзіцё калыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на ігрышчах і вечарынах, і на вясельлях і на хаўтурах, і ў бяседзе, і ў працы, і ў маскалі ідучы і ва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць.

18. І прамовіў Хрыстос Пятру: ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песьню, але галодныя людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым.

19. Тады ізноў сказаў Пётра: але няхай жа ў песьнях будуць думкі добрыя і паўчаючыя, каб, апроч красы, меўся ў іх і спажытак чалавеку.

20. І адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса ёсьць той спажытак дзеля душы.

21. І, паўчаючы іх, прамовіў: аглянецеся навокал! Ці ж не ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка працаваў яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа ўзрасьлі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўныя вагі каласы маглі бы ўзрасьці на месцы васількоў.

24. Але яшчэ з маленства краса іх прышлася мне да душы. Таму я не вырву з каранём іх, як усякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё.

25. Так сказаў гаспадар у сэрцы сваім і думках сваіх. І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я ж гавару вам: добра быць коласам, але шчасьліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

27. І, кажучы так, пачуў ён песьню жнеек і прамовіў: слухайце, што кажуць словы гэтай песьні. Яе складалі людзі, каторыя ведаюць, чаго варты хлеб.

28. Яны ж пачулі, што словы той песьні кажуць: няма лепш цьвяточка над васілёчка. І далей ужо моўчкі ішлі яны.

Рукапіс гэты адшукаў Максім Багдановіч.

## Беларускія зычэньні, прымаўкі, выслоўі

Дай жа, Божа, гэтай будынкі на пастаяньне, а вам на пражываньне! *(Калі будуюць хату.)*

Памагай, Бог! *(Пры розных работах).*– Казаў Бог, каб ты памог! *(Жартоўны адказ.)*

Добры дзень! – Добры дзень! Хай дае Бог добрае! *(Вітаньне.)*

Зарадзі, Бог! *(На полі.)*

Радзі, Божа, на камені і пад каменем! *(На полі.)*

Бывайце здаровы! Дай, Божа, здаровым бачыцца. *(Пры разьвітаньні.)*

Паздароў. Божа! *(Пасьля лазьні.)*

Будзь здароў! – Пі здароў! Дай жа, Божа, каб нам было гожа! *(За чаркаю.)*

Дай жа, Божа нашаму лаўцу з аўцу, а мне дык хоць з ялавіцу! *(Зычэнне рыбаку.)*

Бог не цяля – бачыць круцяля.

Богу маліся, а за праўду дзяржыся.

Богу маліся, а сам працуй, бо згаладаеш.

Бог то Бог, дый сам не будзь плох.

Богу багаваць, а нам працаваць.

Ведаў Бог, што не даў сьвіньні рог.

Дай, Божа, раз хрысьціцца, раз жаніцца і раз паміраць.

Дай, Бог, нашаму седу сем ног.

Дай, Божа, усё ўмець, ды не ўсё рабіць.

Дай, Божа, чутае бачыць.

Двум Багам не маліся.

Жыве, як у Бога за пазухай.

Стварыў Бог чалавека – дый сам каецца.

Чаго чалавек не зможа, то і Бог не дапаможа.

На Бога спадзявайся, ды і сам старайся.

„Божа, памажы", а сам не ляжы.

Хто рана ўстае, таму і Бог дае.

## Каментар архітэктара

Сядзіба Завосьсе, якой яе намаляваў вядомы мастак XIX стагодзьдзя Напалеон Орда, — тыповы беларускі фальварак. У цэнтры малюнка — сядзібны дом. Ён меў планіроўку так званай хаты на дзьве палавіны, або, як кажуць яшчэ, — у два канцы. З ганку, накрытага двухсхільнай стрэшкай на двух апорных слупах, быў уваход у сені, адкуль, звычайна, меўся яшчэ і выхад на процілеглы бок. Паабапал сеняў знаходзіліся пакоі.

Два каміны на страсе сьведчаць, што кожная палавіна хаты мела асобную печ.

Архітэктура сядзібнага дома тыповая для шляхецкіх фальваркаў: зрубныя сьцены, невялікія вокны, двухсхільная саламяная страха. Перад ганкам быў так званы чысты двор — дзядзінец, дзе спыняліся брычкі, калі прыязджалі госьці. Дзядзінец, звычайна, зарастаў травою, якую касілі — ладзілі газон, тут жа часам садзілі кветкі і рабілі клумбу.

Побач з хатай, вакол чыстага двара ставілі: сьвіран, скарбец, сырнік, лямус. Двух'ярусны лямус з слупавой галерэяй бачны і на гэтай гравюры.

За сядзібным домам узвышаюцца высокія дрэвы, якія, відаць, атулялі гаспадарчы двор, што знаходзіўся з другога боку хаты. У маёнтку быў і сад, таксама, відаць, абсаджаны дрэвамі. З гаспадарчых пабудоў на гравюры бачны толькі невялікі хлеў.

Ад дарогі, што відаць у левым ніжнім рагу гравюры, сядзібу адзьдзяляў драўляны плот. Побач зь ім — высокія дрэвы. (А наогул, уладары маёнткаў абсаджвалі дарогі дрэвамі, ствараючы алеі.) Напалеон Орда маляваў Завосьсе, відаць, тады, калі гэты маёнтак ужо стаў казённым і яго ніхто не даглядаў. На карысьць гэтага сведчыць агароджа з жэрдак, а дакладней, яе рэшткі, што каля лямуса.

**Аляксандар ЛАКОТКА,**

архітэктар, намесьнік дырэктара па навуковай рабоце Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту.



**Малюнак Н. ОРДЫ**

## Клуб «ЗАВОСЬСЕ»

*Адама Міцкевіча ведае ўвесь сьвет. Але ці можна сказаць, што мы, яго землякі, можам распавесьці пра славутага паэта кожнаму госьцю, не кажучы пра зацікаўленых людзей?*

*А ва ўсім сьвеце - інакш. Усюды пра славутых землякоў ведаюць, берагуць мясьціны, дзе яны жылі, ганарацца імі.*

*У нашай газеце мы будзем прапагандаваць творчасьць Адама Міцкевіча, распавядаць пра яго жыцьцё і дзейнасьць. Шкада, вядома, што лёс быў такі жорсткі да сына Навагарадскай зямлі, і яго талент не прычыніўся да росквіту беларускага народа. Але мы павінны ганарыцца, што наш зямляк служыў усяму чалавецтву. І ўсюды, дзе ён ні пабываў, стаяць яму помнікі, створаны яго музеі. Ні тога, ні іншага пакуль на яго радзіме няма. Дык мы будзем гаварыць пра Адама Міцкевіча . . .*

***„Гаварыць пра Міцкевіча,** - сказаў Віктор Гюго, - **гэта гаварыць аб прыгажосьці, справядлівасьці і праўдзе, гэта гаварыць аб праве, ваяром якога быў, аб абавязку, бо быў яго героем, аб свабодзе, якой быў апосталам, аб вызваленьні, якое вясьціў".***

# *Завосьсе*

*Час зрабіў сваё. Не шапаціць тут лісьцем вечна трывожны асінавы гай, за якім знаходзіўся гэты фальварак. Мясцовасьць абязьлюдзела. Няма і самога фальварку. Не існуе ён больш за сто гадоў. Будынкі аджылі свой век і больш не адбудоўваліся /у апошні час фальварак быў казённым/.*

*Але вядомасьць аб гэтым кутку беларускай зямлі не загубілася ў часе. **„Тут, у Завосьсі, 24 сьнежня 1798 года нарадзіўся вялікі паэт Адам Міцкевіч",** - было напісана па-польску на абеліску, пастаўленым у 1927 годзе /рэстаўрыраваны да стагодзьдзя з дня сьмерці песьняра/.*

*Селішча фальварка Завосьсе знаходзіцца недалёка ад горада Баранавічы. Трапіць сюды можна, калі павярнуць з навагарадзкай дарогі на вёску Калдычэва і мінуць вёскі Мядзеневічы і Завосьсе. Цяпер да міцкевічаўскага хутара вядзе асфальтаваная дарога (за выключэньнем ад Мядзеневіч да вёскі Завосьсе). З часоў Адама Міцкевіча захавалася тут, відаць, адна тоўстая ліпа. Сядзіба знаходзілася ў круглай маляўнічай катлавіне, толькі з боку Калдычэўскага возера адкрытай. Пасярэдзіне катлавіны знаходзіцца азярцо з востравам. Відаць, у далёкім мінулым было яно большым і злучалася з Калдычэўскім, у якога яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя была затока, што заходзіла пад самы хутар Завосьсе.*

*Да Міцкевічаў фальварак Завосьсе належаў двум братам - Міхалу і Юзафу Яновічам. У 1784 годзе палавіна, а на наступны год цалкам перайшоў гэты фальварак да дзядзькоў бацькі Адама Міцкевіча, Юзафа і Базыля. Пасля сьмерці дзядзькоў права на Завосьсе атрымаў у 1799 годзе бацька Адама. Але гаспадарыць тут перашкаджала яму адвакацкая практыка, і ён у 1801 годзе пусціў Завосьсе ў арэнду. Затым, у 1806 годзе, аддаў яго цалкам Вінцэнту Стыпулкоўскаму, мужу сваёй роднай сястры Барбары. Фальварак Завосьсе ва ўласнасьці сямьі Стыпулкоўскіх быў больш дваццаці гадоў, а пасля перайшоў да казны.*

*Як бачым, фальварак Завосьсе на дзень нараджэньня Адама Міцкевіча не належаў яго бацьку. Сямья Мікалая Міцкевіча жыла тады ў Навагарадку. Узьнікае пытаньне: ці ж мог нарадзіцца ў Завосьсі будучы паэт? І да сягоньня гэтая справа не высьветлена канчаткова: Завосьсе ці Навагарадак? Тым больш, некаторыя дасьледчыкі называюць яшчэ і Асавец. У сёмым томе „Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства і іншых славянскіх земляў" за 1886 год гэты Асавец падаецца недалёка ад Навагарадка, але, відаць, сёньня ніхто дакладна не пакажа названую мясьціну. Далучаюся да думкі Адама Мальдзіса: „Аднак найбольш верагоднымі зьяўляюцца зьвесткі брата А. Міцкевіча - Аляксандра, які ў 1861 г. у лісьце да маршалка Навагрудскага павета У. Р. Брахоцкага сьцьвярджаў, што **А. Міцкевіч нарадзіўся ў Завосьсі,** дзе на той час гасьцілі бацькі.*

*Можна паверыць, што маці Адама, пані Барбара, рашылася паехаць за 56 кіламетраў у апошнія дні цяжарнасьці, бо, вядома, найлепш правесьці сьвята Божага Нараджэньня ў коле сваякоў.*

*Сядзіба ў Завосьсі складалася з драўлянай хаты на два канцы з саламянай страхой, з двума комінамі і ганкам. Па краях вялікага дзядзінца стаялі хлеў, гумно, свіран і студня з жураўлём. У гэтай шляхецкай сядзібе, у сваёй цёткі Барбары, юны Адам праводзіў амаль усе канікулы. Сюды яго вабілі цудоўныя ваколіцы засьценка: лес, напоўнены птушыным рознагалосьсем, стракатыя ад кветак лугі, люстэркі возера і сажалак, сінія стужкі рэчак, вясёлыя пагоркі і горы. Асабліва любіў ён дзівіцца на навакольныя пейзажы з Жарновай гары, самай высокай ва ўсёй ваколіцы. І сёньня тут яшчэ веюць ветры, што калісьці несьлі па сьвеце думы і мары паэта аб лепшай долі свайго краю.*

*Радуе, верыцца і з нецярплівасьцю чакаецца той час, калі ў Завосьсі будзе нанова адбудавана сядзіба Міцкевічаў. Ёсць намер стварыць да двухсотай гадавіны з дня нараджэньня Адама Міцкевіча Міцкевічаўскі запаведнік на ўзор даўно існуючага Пушкінскага запаведніка.*

***Аляксандар ШОЦКІ***




# МОЙ РОДНЫ КУТ

Адам Міцкевіч, сын Мікалая і Барбары з роду Маеўскіх, нарадзіўся, як вы прачыталі вышэй, у Завосьсі. І вам, магчыма, цікава было б даведацца пра гэты край крыху больш. Таму газета „Гаспадар" будзе друкаваць матэрыялы па гісторыі Навагарадчыны (цяпер афіцыйна яна называецца Навагрудчына), у склад якой тэрытарыяльна ды гістарычна некалі ўваходзіў і сучасны Баранавіцкі раён.

Гэты куток нашага краю быў заселены здаўна, пра што сьведчаць знаходкі керамічнага посуду і крамянёвых прыладаў на паўднёвым беразе Калдычэўскага возера. Такія знаходкі далі вучоным падставу вызначыць тут стаянку чалавека эпохі неаліту. Пазьней, магчыма, ужо ў сярэдзіне першага тысячагодзьдзя нашай эры, на гэтым месцы ўзьнікла паселішча. Яго рэшткі выявіліся, калі гадоў дваццаць таму меліяратары выкапалі тут глыбокія асушальныя канавы. У торфе, што выкінуў экскаватар, аўтар гэтых радкоў знайшоў скроневае колца - старадаўняе ўпрыгожаньне славянак. Паводле формы яно было падобнае на скроневае колца, знойдзенае ў Навагарадку савецкім археолагам Ф. Д. Гурэвіч. А яна ў сваёй кнізе „Древний Новогрудок" (Ленінград, „Наука", 1981) сьцьвярджае, што Навагарадак „окружен поселениями и курганными могильниками с типично славянским инвентарем" (стар. 5).

## *Міцкевічава Айчына*

І паводле тэрытарыяльнай прыналежнасьці гэты куток здаўна належаў да Навагарадка, як бы той ні называўся. (У летапісах ён вядомы як Новы Гарадок, Новы Гарадзец, Новагародак, Новгарадак.)

Археалагічныя дасьледаваньні ў Навагарадку выразна пацьвердзілі, што ён існаваў задоўга да таго часу, калі ўпершыню пад 1044 годам згадваецца ў Сафійскім Першым летапісе.

Летапісныя зьвесткі 50–60-х гадоў XIII стагодзьдзя гавораць пра існаваньне цэлай гістарычнай вобласьці - Новагародзкай зямлі. Да сярэдзіны XIII стагодзьдзя яна дасягнула высокага эканамічнага і культурнага разьвіцьця. Яму садзейнічалі добра разьвітое земляробства, урадлівыя глебы, радовішчы балотнай руды, асабліва багатыя ў Занямоньні, дзе цяпер знаходзіцца Налібоцкая пушча. Тут выплаўлялася жалеза і каваліся зь яго разнастайныя вырабы, у тым ліку і стрэлы для арбалетаў. Дарэчы, па насычанасьці жалезных вырабаў у археалагічных раскопах Навагарадак адзін з самых багатых у гэтых адносінах гарадоў.

Аднак вядучай галіной рамёстваў у Навагарадку была апрацоўка каляровых і каштоўных металаў. Ф. Д. Гурэвіч мяркуе, што багацтва і раскошу побыту ў раскапаным ёю вакольным горадзе старадаўняга Навагарадка можна вытлумачыць толькі продажам каштоўных вырабаў мясцовых ювеліраў.

Археалагічныя раскопкі сьведчаць, што Навагарадак меў шырокія гандлёвыя сувязі з іншымі беларускімі гарадамі, асабліва з Полацкам, з паўднёварускімі, польскімі і нямецкімі гарадамі, а таксама з Візантыяй і Блізкім Усходам, у прыватнасьці з Іранам і Сірыяй.

Высокі ўзровень разьвіцьця гандлю зьдзіўляе асабліва, бо Навагарадак не меў сплаўнай ракі, як, напрыклад, Полацак. А таму Навагарадак, аддалены ад Нёмана на 30 кіламетраў ды ад іншых вялікіх рэк яшчэ больш, павінен быў мець добрыя дарогі. Трэба думаць, ужо ў той час узьніклі шляхі, якія асабліва добра відны на сучасных мапах (картах). Яны кіруюцца на Менск, на Нясьвіж і Слуцак, на Баранавічы і Пінск, на Слонім, Зэльву, Ваўкавыск, Сьвіслач, на Ліду, Вільню і Гародню, на Крэва...

Як сьведчыць Іпацьеўскі летапіс, у Навагарадку (1235), у Ваўкавыску і Сьвіслачы (1256), у Слоніме (1281) былі свае князі. Значыць, там былі цэнтры асобных удзелаў, ды ўсе яны згуртаваліся вакол Навагарадка і аб'ядналіся ў адной „Новогородской державе, над Немном лежачее" (так назваў яе летапісец). А навагарадзкі князь (паводле Іпацьеўскага летапісу - Ізяслаў) быў, магчыма, для ўдзельных князёў Панямоньня Вялікім князем.

Навагарадзкая зямля сталася краінай разьвітога феадальнага грамадства. Яе выгаднае геаграфічнае становішча і моц асабліва выявіліся ў сярэдзіне XIII стагодзьдзя, калі пачаліся паходы мангольскіх заваёўнікаў, а таксама і крыжакоў. Апошнія паквапіліся на полацкія ўладаньні ў Ніжнім (латгальскім і ліўскім) Падзьвіньні.

Пагроза з усходу і захаду вымусіла аб'яднацца не толькі ўдзельныя княствы Беларускага Панямоньня, але і іншыя княствы, што існавалі на тэрыторыі Беларусі, і якія даўно ўжо мелі паміж сабою гандлёвыя сувязі. Працэс зьбіраньня ў адзінае цэлае ўсіх беларускіх земляў узялі ў свае рукі эканамічна магутныя навагарадзкія феадалы. І гэта ім удалося.

Выгаду ад такога аб'яднаньня ўсе адчулі адразу ж. У 1241 годзе мангольскія орды разбурылі Кіеў ды іншыя украінскія гарады. А вось ні Навагарадак, ні іншыя гарады гэтай беларускай феадальнай дзяржавы не зьведалі мангольскага нашэсьця. Ды не таму, што манголаў спынілі, як пішуць, палескія балоты. А таму, відаць, што магутная Навагарадзкая дзяржава разам з іншымі беларускімі княствамі змаглі абараніць сябе. Апошнія раскопкі археолагаў у Гомелі пацьвярджаюць зьвесткі летапісаў пра няўдалую спробу манголаў захапіць гэты горад. Летапіс паведамляе і пра страшэнную сечу бліз Бярэсьця, пасьля якой з-за трупаў нельга было прайсьці ў горад. Вядома, што славяне заўсёды хавалі сваіх загінуўшых. А таму вучоныя мяркуюць, што пад Бярэсьцем ляжалі трупы мангольскіх заваёўнікаў. А пра тое, што Бярэсьце не было захоплена, лепш за ўсё сьведчыць музей пад дахам, створаны на месцы старажытнага Бярэсьця, дзе і сёньня можна ўбачыць будынкі так званага дамангольскага перыяду.

Але найболей выйграла Навагарадзкая зямля. Менавіта тут знайшлі сабе прыстанак жыхары шмат якіх вобласьцяў Усходняй Еўропы. Прыліў новага насельніцтва паспрыяў яшчэ большаму разьвіцьцю прадукцыйных сілаў гэтага краю. З цягам часу Навагарадзкая дзяржава атрымала новую назву - Вялікае княства Літоўскае, сталіцай якога працяглы час заставаўся Навагарадак. Чаму адбылося перайменаваньне, чаму ў назве зьявілася слова „Літоўскае" - пра гэта ў наступным нумары.

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

**Ад рэдакцыі.** Мы раім нашым чытачам набыць кнігі „Па сьлядах аднаго міфа" (Мн., 1991) і „Старажытная Беларусь" (Мн., 1990) гісторыка, дасьледчыка нашай даўніны Міколы Іванавіча Ермаловіча, якому нядаўна споўнілася 70 гадоў. Мы шчыра, хоць і запозьнена, віншуем Шаноўнага Міколу Іванавіча ды зычым Яму **СТА ЛЕТАЎ.**

## Птушкі, жывёлы, расьліны, дрэвы ў беларускім фальклёры



# Пойце, куркі, рана!

*„З белага каменя, з жоўтага воску адазваўся кавалер на ўсю вёску”, „Нарадзіўся прарок з-пад белага каменя - стаў прараканы, сталі людзі з мёртвых уставаці”. Гэтыя беларускія загадкі пра пеўня, відаць, з'явіліся ў сівой мінуўшчыне. Яшчэ да таго, як людзі прыручылі дзікіх курэй, яны звярнулі ўвагу на дзіўныя начныя гукі... А неўзабаве ўзыходзіла сонца... Кукарэканьне будзіла і ўяўленне нашых прашчураў: крык пеўня можа прагнаць цемру, „злога духа”, які пануе ноччу.*

*У беларускай народнай казцы „Лочкі” дзедава дачка, каб уратавацца ад чорта, просіць: „Пойце, куркі, рана!” І як толькі певень пракукарэкаў, „чорны, варухаты” адразу ж прапаў. Аб тым, што гэтая казка вельмі старадаўняя, як, зрэшты, і пераважная большасьць беларускіх казак, якія, дарэчы, маюць аналагічныя сюжэты з казкамі славутай „Тысячы і адной ночы”, сьведчыць і слова „куркі”. Так называлі нашы прашчуры пеўняў. Слова „кур” выкарыстаў і аўтар „Слова пра паход Ігаравы”. А за яго маскоўскі дасьледчык Б. І. Зотаў прызнае Кірылу Тураўскага, славутага беларускага сьвятара, епіскапа Тураўскага. Каб сказаць, што князь Усяслаў Полацкі хутка, за ноч, даімчаў з Кіева да Цьмутаракані, якая была на беразе Чорнага мора, наш „златавуст” ужыў спалучэнне словаў „до куръ”, г. зн. да таго часу, як пачыналі сьпяваць пеўні. А яшчэ казалі тады „е куры” - на сьвітанку, „к курам” - да сьвітаньня. З цягам часу беларусы сталі называць кура пеўнем. І каб сказаць, напрыклад, што некага абудзілі вельмі рана, гаварылі „а першых пеўнях разбудзіў”. А слова кура стала азначаць тое самае, што і слова курыца. Як, напрыклад, у песьні: „Пяе певень, пяе другі, шчэ й куро сакоча...”.*

*Як бачым, паводле пеўневага кукарэканьня людзі сталі вызначаць час.*

*Наш славуты зямляк Ігнат Дамейка, які амаль паўстагодзьдзя навучаў чылійцаў горнаруднай справе, зрэфармаваў сістэму адукацыі рэспублікі Чылі і шмат гадоў быў рэктарам універсітэту ў Сант-Яга, калі прыехаў у 1884 годзе на Радзіму, наведаў і Сачыўкі, што паміж Сталовічамі і Крашынам. Абабегшы ўвесь дзедаў дом, дзе ўсё было знаёма, Дамейка ўспомніў дзяцінства. І запісаў у сваім дзёньніку: „...пазнаў сені, дзе за жыцьця бабулі была над дзьвярыма вялікая клетка, а ў ёй вялікі шышаты певень, які сьпяваў гадзіны”.*

*Вядома, першым гадзіньнікам было сонца. Яно будзіла, паводле ценю вызначалі час удзень, з яго заходам клаліся спаць. Але певень агалошваў сьвітанак, быў вестуном сонца. Таму, відаць, і выбіта выява пеўня на манеце старадаўняй дзяржавы, якая існавала калісьці на грэчаскім востраве Крыт. І нашы продкі выразалі пеўняў на вільчыках стрэхаў, на пернікавых формах, вышывалі на ручніках, вытыкалі на посьцілках. А пра загадкі, прымаўкі, песьні і казаць няма чаго.*

*„Бяда ў тым доме, дзе куры пяюць, а пеўням волі не даюць”, „На сваім сьметніку і певень гаспадар”, „Певень яму засьпяваў на дарогу” (гэта лічылася добрай прыкметай).*

*З. С.*

# СЯДЗІБА

Кожны гаспадар, бедны ці заможны, стараўся не толькі мець сваю сядзібу, але і забудаваць яе так, каб зручна было жыць. Вядома, багатая шляхта і абшарнікі выбіралі прыгожую мясьціну. Памятаеце, у „Новай зямлі” Якуба Коласа:

*За горкай панская пасада,*
*Як у вяночку, каля саду*
*Ў глыбі прасторнага*
*дзядзінца.*
*Стаяла збоку ад гасцінца.*
*Будынак, парк і агарожа -*
*Было ўсё слаўна і прыгожа;*
*Мастацкі зробленая брама*
*Ласкала вока гэтаксама...*

Але і сяляне не ставілі свае забудовы абы-як. Выбар месца, арыентацыя хаты адносна вуліцы, адносна старон сьвету, парадак і пасьлядоўнасьць гаспадарчых пабудоў залежалі ад розных прычынаў. Але больш за ўсё заважвалі этнічныя традыцыі, гістарычныя асаблівасьці ды кліматычныя ўмовы. Вядома, шмат залежала і ад густу гаспадара.

На Беларусі пераважаюць тры асноўныя тыпы сядзібаў: **вяночная, пагонная і двор з нязьвязанымі пабудовамі.** Усё гэта можна пабачыць у музеі народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах каля Менску. **Сядзіба з вяночнай забудовай** у плане складала правільны або прадаўгаваты чатырохвугольнік. Усе будынкі: хата, варыўня і хлявы былі зьвязаны паміж сабою. І калі нават паміж пабудовамі былі прамежкі, яны закрываліся парканам зь бярвеньняў, гарызантальна закладзеных у шулы. Такія сядзібы пераважаюць на Віцебшчыне і паводле мясцовай тэрміналогіі называюцца замётамі. Яны былі не проста сядзібай, а жыльлём-умацаваньнем.

На Палесьсі, дзе надзейнай аховай былі балоты, распаўсюджаны **пагонныя двары.** На такой сядзібе жыльлё і гаспадарчыя збудаваньні пастаўлены ў адзін рад (пагон). Такую забудову можна ўбачыць і ў вёсках Баранавіцкага раёна. Відаць, так будавалі дрыгавічы.

Трэці тып сядзібы - **двор з нязьвязанымі пабудовамі** - лічыцца найбольш позьнім. Мяркуюць, што такое будаўніцтва было абумоўлена засьцярогай ад пажару. І сапраўды, калі хата, сьвіран, хлявы і гумно стаялі наводдаль адно ад другога, то латвей было перапыніць агонь. Так вось і ў Альбуці, апісанай у „Новай зямлі” як Парэчча, відаць, была сядзіба зь нязьвязанымі пабудовамі, бо калі прыйшла бяда, надарыўся пажар, то згарэла толькі хата з варыўнёю, а іншыя будынкі засталіся.




ГРАВЮРА М. КУПАВЫ.

# Ажыны: «салодкі» частакол

*Хто з жыхароў Беларусі не бачыў ажыну? Няшмат такіх знойдзецца. Кусты гэтай „чорнай маліны”, як яе яшчэ называюць, растуць і ў барах, і ў гаях. Любіць яна месцы сонечныя, не хаваецца ўглыб лесу, а выбірае ўскрайкі і прасекі, дзе прывольна раскідвае свае зарасьці, каб грэліся на сонцы і набіраліся сілы яе выгнутыя дугою, усыпаныя шыпамі парасткі, якія дасягаюць 1,5 - 2 м вышыні.*

**Моцна трымаецца яна за зямлю. Руплівыя гаспадары абсаджваюць ёю адхоны і восыпы, каб умацаваць сыпучыя глебы яе ўчэпістымі і доўгімі карэньнямі. Садзяць яе і ва ўласных сядзібах тыя, зразумела, хто знае аб лекавых і гаючых уласьцівасьцях лісьця і ягадаў гэтай расьліны. Не вымагае яна асаблівага дагляду, але за клопаты шчодра аддзякуе чалавеку.**

**У чэрвені пачынае цьвісьці ажына белымі і ружовымі, сабранымі ў гронкі кветкамі. А ў канцы лета пасьпяваюць яе глянцавітыя ягады, якія здалёк здаюцца зусім чорнымі, а разгледзіш іх зблізу - яны чорна-чырвонага колеру, або пакрыты сіняватым налётам. Самы час сабраць іх для лекавай мэты, яны спатрэбяцца і сьвежыя, і сушаныя. Са сьвежых ягадаў можна прыгатаваць сок такім самым спосабам, як з маліны. Сок ажыны мае цудадзейную сілу, выкарыстоўваецца як супрацьзапаленчы сродак пры прастудзе: дарослым - па сталовай лыжцы, дзецям - па чайнай лыжачцы 3-4 разы ў дзень. Вельмі памагае ён дзецям, хворым на шкарлятыну.**

**Абавязкова насушыце ягадаў ажыны! Лыжачка пакрышаных сушаных ягадаў, змешаных з цукрам ці мёдам, калі вы дасьце іх дзіцяці 3 разы на дзень, выратуе дзіця ад паноса з крывёю, ад глістоў.**

**Але галоўная лекавая сыравіна ажыны - яе лісьце. Паклапаціцца аб іх загатоўцы трэба перад цьвіценьнем расьліны - у гэтую пору самая цудадзейная сіла ў лісьці. Калі вы старанна высушыце лісьце ажыны пры тэмпературы не вышэй чым +35°С, яно будзе зялёнага колеру, блізкага да натуральнага, не будзе мець паху, а на смак будзе аскомістае, даўкае. Адвар з 1-2 лыжак лісьця ажыны на 2 шклянкі вады ўжываюць 3-4 разы штодзённа паміж прыйманьнем ежы. Шмат якія хваробы баяцца гэтага адвару. Ён знімае вострыя і застарэлыя болі страўніка і кішэчніка, лечыць запаленчы працэс сьлізістай абалонкі, гастрыт, спыняе ўспучваньне страўніка, зьяўляецца агульным нейтралізатарам пры рэўматычных хваробах, актыўна дапамагае пераборваць грып.**

**А калі вы да 2-х лыжак лісьця ажыны дадасьце 2 лыжкі крапівы і 3 лыжкі сьвятаяньніку (зверабою) ды запарыце ўсё гэта варам, настоіце тры гадзіны і будзеце піць гэты настой гарачым, вы і думаць забудзецеся пра малакроўе.**

*Калі ж хто-небудзь сапсуе вам настрой, і вашы нэрвы разыйдуцца, хутчэй заварвайце гарбату з такой сумесі: дзеравчка пахучая (ясменник душистый, Asperula odorata) - 20,0 г; лісьце ажыны - 25,0 г; чабор - 10,0 г; травы сардэчніку (пустырник, Leonurus) - 20,0; сушаніца балотная ці аплавічнік (сушеница болотная, Gnaphalium uliginosum) - 15,0. Гэтая гарбата суцішыць нават істэрычны прыпадак.*

*Гэтая ж сумесь, за выключэньнем чабору (яго замяняюць кветкамі глогу), ужываецца пры „жаночым завяданьні” - клімаксе. Пасьля дзесяцідзённага ўжываньня гарбаты з гэтай сумесі прыпыняюцца галаўныя болі, зьяўляецца апетыт, вяртаецца моцны здаровы сон. А калі ў гэтай сумесі замяніць глог на 15,0 г лісьця амялы, і піць настой па тры шклянкі штодзённа на працягу трывалага часу, панізіцца крывяны ціск, значна паменшыцца артэрыясклероз.*

**А якую смачную кветкавую гарбату вы будзеце піць, калі зьмяшаеце лісьце ажыны з лісьцем суніцы і чаборам або сьвятаяньнікам! Ды калі да гэтай гарбаты гаспадыня падасьць яшчэ і варэньне з той жа самай ажыны!**

*Пасадзіце ажыны на ўзмежку - вырасьце цудоўны частакол!*

***Ядвіга БУТРЫМ.***

МАЙСТРУЕМ

# Пагрузчык

Пагрузчык, схема якога накрэсьлена на малюнку I, разьлічаны на работу ў стацыянарных умовах, у прыватнасьці ў хляве ці аборы, і прыстасаваны для пагрузкі аборнага гною. Але яго можна паставіць каля будуемай хаты і падымаць ім цэглу ці раствор. Яго лёгка можна перарабіць на перасоўны, паставіўшы на вазок, аўтамабіль або трактар.

Пагрузчык складаецца з корпуса (2), пасаджанага на вертыкальны слуп-апору (1), які замацаваны ў спецыяльным жалезабетонным падмурку, стралы (3), троса (4), зачэпнага замка (5), падвешанага на стальным тросе самасхвата (грэйфера) (6), які самазаціскаецца, прывада з электраматорам (7).

**СЛУП-апора (1).**

Калі выкарыстоўваецца доўгая страла, то нагрузкі на плячо пагрузчыка дасягаюць немалой велічыні. Таму слуп-апора павінен быць зроблены з моцнай стальной трубы дыяметрам каля 10- 14 см. Такую трубу цяжка прыдбаць, але апору (слуп) можна зварыць з стальных палосаў рознага профілю, абы толькі ўтварыўся слуп замкнутага профілю.

Вышыня слупа павінна быць 3 метры, з такім разлікам, што на адзін метр яна будзе заглыблена ў падмурак.

На вяршыні слупа трэба прыварыць вытачаны шворан (стрыжань) для вялікага конуснага падшыпніка, на якім будзе круціцца корпус пагрузчыка.

**Корпус (2).**

Корпус служыць для злучэння ўсіх частак пагрузчыка. Корпус можна зварыць з чатырох вуглакоў і дзьвюх жалезных пласьцін (малюнак II). Адна з іх павінна мець адтуліну (для слупа-апоры), якую можна выразаць газавым разаком. На тую пласьціну, што будзе знаходзіцца наверсе,




**Мал. I. Агульны выгляд пагрузчыка: 1 - слуп-апора, 2 - корпус, 3 - страла, 4 - трос, 5 - зачэпны замок, 6 - самасхват (грэйфер), 7 - прывад з электрарухавіком, 8 - варaток з корбай.**

Працяг на 8-й стар.

# ГАДУЕМ ТРУСОЎ

Гадоўля трусоў - выгадная справа, асабліва цяпер, калі сталі недасягальнымі натуральнае футра і дыетычнае, далікатэснае мяса. Трусяціна не адрозьніваецца ні сваім выглядам, ні якасьцю ад курынага мяса. Яго раяць ужываць тым хворым людзям, каму забараняюць есьці тлустую свініну ці жорсткую ялавічыну. Да таго ж па ўтрыманьню бялку трусяціна перавышае ўсе іншыя гатункі мяса.

З трусіных шкурак вырабляюць моцную скуру, з якой шыюць пальчаткі, лёгкі абутак. З поўсьці валяюць тонкі лямец, з якога шыюць капелюшы. А з абрэзкаў скуры вырабляюць лепшыя гатункі клею.

Гадуючы трусоў, вы будзеце мець для агарода гной, які лічыцца вельмі добрым угнаеньнем і выкарыстоўваецца толькі пераброджаным і разбаўленым вадою.

Для гадоўлі трусоў не патрабуецца нейкіх спецыяльных памяшканьняў, дастаткова зрабіць самыя простыя клеткі нават невялікага памеру з звычайнай фанеры, але ў такім выпадку на сьцены клеткі трэба набіць металічную сетку і зьверху прыладзіць стрэшку. Трусы грызуць нават дашчаныя клеткі, а ў земляной падлозе робяць глыбокія норы. Калі ж з сеткі зрабіць і падлогу, то гэта спросьціць дагляд. Але для маладняку спатрэбіцца моцная клетка з добрай падлогай, у якой варта прасьвідраваць некалькі адтулінаў, праз якія будзе сьцякаць жыжа.

Трусы вельмі пераборлівыя, яны не будуць есьці харчу, па якім самі ж патапталіся. А таму найлепей прыладзіць да сьценкі ясьлі,куды будзеце класьці траву. А для сыпучага корму трэба мець спецыяльны посуд, які трэба рэгулярна чысьціць.

ДОГЛЯД ТРУСОЎ нескладаны, дастаткова сачыць за чысьцінёй у клетцы, падкладваць сухую салому, рэгулярна даваць харч, вядома, якасны. Ды трэба памятаць, што аднастайны харч трусам не толькі можа абрыдзець, але паўплывае і на стан самых жывёлінаў.

Кормяць трусоў улетку 3 разы на дзень, а зімою - 2 разы. У залежнасьці ад харчу трэба або не трэба даваць трусам ваду. Калі ім даюць сьвежую траву, гародніну, то вады не трэба даваць, бо лішняя вільгаць шкодная, гэтаксама, як і мокрая трава. Самы звычайны харч для трусоў - трава, як сьвежая, так і падсушаная, ці сена, зерне (авёс, ячмень), морква, параная бульба. Зімою раніцай даюць жменю зерня і адзін бурак (найлепей цукровы або кармовы), сярэдняй велічыні, нарэзаны скібкамі, адпаведную колькасьць паранай бульбы, а ўвечары невялікі жмуток сена. Каб трусы маглі сточваць свае зубы, якія хутка растуць, трэба час ад часу класьці ў клетку галінкі вярбы, бярэзіны, таполі.

# САД АГАРОД

## Без рыдлёўкі

***– Ці заўважылі Вы, што на тым месцы, дзе летась увосень спалілі лісьце, не вырасла пустазельле?***

***– Ці зьвярнулі Вы ўвагу, што вакол сьлівы, дзе летась Вы так старанна выкарчавалі ўсе каранёвыя адросткі, сёлета зноў поўна маладзенькіх пасынкаў?***

***– Ці не пераканаліся Вы, што зямля ў кампостнай кучы пульхная, што ў ёй шмат даждавых чарвякоў?***

***– Ці не дзівіліся Вы, што ў лесе, дзе, як вядома, ніхто ніколі зямлі не капае, штогод растуць смачныя і буйныя (калі паспрыяе надвор'е) ягады?***

***– Ці не шкада Вам карэньчыкаў, якія Вы пераразаеце, калі вясною ці ўвосень абкапваеце дрэўцы ці хмызьнячкі?***

***– Ці ведаеце Вы, што ў глебе на плошчы ў адзін квадратны метр жывуць:***

***– болей 4 трыліёнаў бактэрыяў і грыбкоў;***

***– паўмільёна мікраскапічных істотаў, якія вядомы вучонаму сьвету пад назвай жгуцікавыя (жгуціканосцы);***

***– 200 тысяч кляшчоў;***

***– 100 тысяч вілахвостак;***

***– 80 тысяч кольчатых;***

***– 80 даждавых чарвякоў.***

І ўсе яны старанна працуюць, каб на Вашых градах ці ў садзе вырас добры ўраджай. Яны выпрацоўваюць той самы гумус, г. зн. перагной, які так спрые росту расьлінаў, і адсутнасьцю якога на калгасных палетках так заклапочаны вучоныя. Усе гэтыя істоты, як усё жывое, патрабуюць цяпла, паветра і вады. Раньняю вясною, замест таго, каб даць гэта ім, Вы зручным рухам рыдлёўкі адпраўляеце іх з цёплай паверхні ў халодную глыбіню, дзе нехапае кіслароду. Замест удзячнасьці, Вы, вобразна кажучы, закапваеце іх жывымі. А калі Вы ўправіліся перакапаць глебу ўвосень, то шмат хто з памочнікаў проста зьмерзьне, не здолеўшы перабрацца ўглыб.

Той-сёй задумаўся: а ці слушна я так раблю? І вось зьявіўся новы тэрмін – біясад, сад, у якім не парушаецца экалагічная раўнавага, у якім ствараюцца, ці, дакладней, падтрымліваюцца адпаведныя ўмовы для існаваньня ўсяго жывога.

У шмат каго з нас слова біясад асацыіруецца з накірункам адмаўленьня дасягненьняў індустрыяльнага грамадства і адыходу да архаічнай культуры, да вегетарыянства, да харчаваньня зернем і арэхамі. А таму, што вегетарыянцы ў нашым грамадстве ўяўляюцца, у лепшым выпадку, дзівакамі, няхай не здасца Вам недарэчным і біясад. Лёс навізны наогул не завідны, мала знойдзецца людзей, якія б дзеля свайго здароўя адмовіліся б ад звыклай ежы, адмовіліся б ад выкарыстаньня штучных угнаеньняў і атруты, якая, нібыта, шкодзіць толькі шкоднікам, а чалавеку не пагражае.

Але біялагічнае садоўніцтва не абмяжоўваецца толькі адмаўленьнем штучных угнаеньняў і пестыцыдаў. Перш за ўсё – гэта гадоўля пладовых дрэваў і хмызьнякоў у адпаведнасьці з прыроднымі законамі, не парушаючы біялагічных сувязяў, што склаліся на працягу мільёнаў гадоў. Галоўнае ў біялагічным садоўніцтве – прыродная раўнавага, падтрымліваць якую можна толькі вывучаючы прыроду, авалодваючы дасягненьнямі сумленных вучоных-натуралістаў.

**Першая запаведзь для садоўніка-агародніка – павелічэньне колькасьці гумусу ў глебе.**

На нашых пясчаных пагорках ды падзолістых далінах дамагчыся гэтага вельмі цяжка, але вопыт палонкаўскіх дачнікаў паказвае, што перагной назапашваецца, асабліва калі яго зьберагаць. А сучасныя спосабы апрацоўкі глебы не спрыяюць павелічэньню ўрадлівасьці. Неяк у часопісе „Наука и жизнь" прамільгнула даведка, што ў Тамбоўскай вобласьці, дзе, як вядома, чарназёмы, гектар ворыўнай зямлі „ выпарае" амаль паўтары тоны гумусу штогод. Разбураецца жыццядайны пласт глебы, які прырода стварала на працягу тысячаў гадоў.

Гумус валодае ўласьцівасьцямі назапашваць карысныя рэчывы і вільгаць. Калі жывучыя ў ім мікраарганізмы атрымоўваюць дастатковую колькасьць арганічнай масы, то яны выпрацоўваюць практычна ўсе неабходныя расьлінам мікраэлементы, азот, калій, фосфар, вуглекіслы газ.

Самы просты спосаб атрыманьня гумусу – назапашваньне ў кампостнай кучы ўсіх адходаў з саду і агароду, у тым ліку і пустазельля, у якога яшчэ не высьпела насеньне. У кучы ва ўмовах насычанасьці паветрам і пры дастатку вільгаці праходзяць тыя ж працэсы, што і ў гумусным пласьце глебы: сьцябліны, лісьце раздрабняюцца, мяняецца іх структура. Перагной з кампостнай кучы – лепшае ўгнаеньне для садовай зямлі. Яго не трэба закопваць – даждавыя чарвякі перацягаюць гумус у глебу.

**Другая запаведзь садоўніка біялагічнага саду – мульчаваньне,** г. зн. пакрыцьцё паверхні глебы пластом перагною, пасечанымі рэшткамі расьлінаў, торфам, апілкамі. Гэта ніякая не выдумка вучоных, а падгледжанае ў прыроды, дзе, як мы бачым гэта ў лесе, няма аголенай зямлі. Мульча аберагае нястомных рупліўцаў пладародзьдзя ад сьпякотных промняў сонца, ад моцнага ветру ці дажджу, якія выдзьмухваюць і вымываюць з глебы гумус. Добрая мульча атрымліваецца з апалага лісьця, якое звычайна паляць.

**Трэцяя запаведзь – не змагайцеся з шкоднікамі.** Трэба назаўсёды адмовіцца ад выкарыстаньня хімічных атрутных рэчываў.

Кожны сад – гэта штучна створаны мікрасьвет, у якім стала жыве пэўная колькасьць так называных шкоднікаў. Але побач зь імі існуюць і насякомыя, якія паразітуюць на шкодніках. Яны і падтрымліваюць біялагічную раўнавагу. І калі на нейкай расьліне ці на дрэве раптам зьяўляецца процьма жукоў ці тлі – гэта знак для садоўніка, што расьліна аслабела, бо ёй нечага не хапае, штосьці для яе зроблена не так.

Трэба ўвесь час памятаць, што расьліны, у тым ліку і дрэвы, сама прырода ўзброіла сродкамі абароны ад насякомых-паразітаў. Адным зь іх зьяўляецца смала, якую Вы напэўна бачылі і на хваёвых дрэвах, і на вішнях ці слівах, і на пупышках каштаноў, півоняў. Наколькі эфектыўныя гэтыя сродкі – можна пераканацца, калі ўспомніць бактэрыцыдныя ўласьцівасьці прапалісу, які ўтвараюць пчолы менавіта з смалы, сабранай імі з расьлінаў. Іншы вядомы ўсім сродак – фітанцыды, фізіялагічна актыўныя рэчывы, якія выдзяляюцца расьлінамі і дрэвамі для абароны ад гнілявых бактэрыяў і грыбкоў. Напрыклад, 1 гектар хваёвага лесу за суткі выдзяляе каля 5 кілаграмаў фітанцыдаў.

Такім чынам, расьліны і дрэвы самі справяцца з сваімі ворагамі, што яны дакавалі на працягу ўсяго існаваньня расьліннасьці на Зямлі.

Таго, хто, прачытаўшы гэты артыкул, возьмецца наладжваць у сваім садзе біялагічную раўнавагу, напаткаюць шматлікія цяжкасьці. Вядома, на паперы ўсё выглядае адмыслова. Але хай не палохаюць няўдачы, за адно лета не выправіць усіх памылак папярэдніх гадоў.

**Пётра ПАШКАВЕЦ**

## Ода макрыцы

*Цэны, скачуць галопам. Становіцца не проста цяжка жыць, арганізм пачынае катастрафічна адчуваць недахоп самых неабходных рэчываў, у першую чаргу вітамінаў. Няхай эканамісты і палітыкі прапрацоўваюць меры сацыяльнай абароны насельніцтва. Я хачу сказаць аб іншым. Мы не ўмеем выкарыстоўваць рэзервы, якія ўтойвае ў сабе прырода. Шырокая папулярызацыя карысных расьлінаў магла б дапамагчы дзесяткам тысяч людзей, асабліва тым, хто не можа купіць дарагія лекі.*

*Існуюць сотні дзікарослых ядомых расьлінаў. Але нават тыя зь іх, якія шырока вядомы, часта незаслужана забыты. Раскажу толькі аб адной зь іх.*

*Навуковая назва расьліны – зоркаўка сярэдняя. Народ даў ёй другое імя:* ***макрыца.*** *Макрыца, таму што гэтая расьлінка літаральна акумуліруе ваду і яе лісьце нават у яснае сонечнае надвор'е заўсёды выглядае вільготным. Дасьледваньні паказалі, што надземная частка расьліны ўтрымлівае амаль усе вітаміны, у тым ліку да 113,9 мг% аскарбінавай кіслаты. Вітамін Е, вельмі важны для папярэджваньня склерозу сасудаў, іншых захворваньняў, які, звычайна ў невялікіх колькасьцях, маецца ў розных пладах, у абляпісе, соі і зоркаўцы сярэдняй выяўлены ў даволі эфектыўных дозах. У зоркаўцы-макрыцы яго да 44,05 мг%, а караціна да 23,9 мг%. Акрамя таго, у лісьці расьліны ёсьць эфірнае масла, сінаповая кіслата, солі калія, жалеза, магній, медзь, кобальт, фітанцыды.*

*Багаты хімічны склад зоркаўкі тлумачыць шырокае яе выкарыстаньне ў народнай медыцыне шмат якіх краін сьвету. Зоркаўка рэкамендуецца пры болях у сэрцы, гепацітах, цырозе вантробы, страўнікава-кішачных хваробах, для ўзмацненьня абмена рэчываў і ўмацаваньня нэрвовай сістэмы. Настой або сьвежая расьліна карысны пры туберкулёзе лёгкіх з крывахарканьнем і іншых унутраных крывацёках, пры пнеўманіі, гемароі, бранхітах, кашлі, вострых рэспіраторных захворваньнях, як малакагоннае кормячым мацяркам, для ўзмацненьня дыурэза пры ацёках, пры недахопе вітамінаў і як болесуцішальны сродак пры рэўматызме.*

*У апошнім выпадку, а таксама пры радыкулітах, карысны ванны з зоркаўкі сярэдняй: добрую жменю сьвежай або высушанай травы заліваюць у эмаліраваным посудзе трыма літрамі халоднай вады, даводзяць да кіпеньня і на невялікім агні томяць дзесяць хвілін, затым настойваюць 2–3 гадзіны і выліваюць настой у падрыхтаваную ванну (працадзіўшы або разам з травою). Ванну прымаюць на працягу месяца 2–3 разы на тыдзень, а па меры палепшаньня самаадчуваньня (прафілактычна) – 1 раз у 8–10 дзён.*

*Настой травы зоркаўкі выкарыстоўваюць як прымочкі і кампрэсы пры вуграх, фурункулах, нарывах, гемараідальных гузах, добраякасных і злаякасных пухлінах. На раны наносяць кашыцу з макрыцы, затым пашкоджанае месца завязваюць, пасьля чаго шпарка і без нагнаеньняў адбываецца зажыўленьне.*

*Незаменна зоркаўка і як харчовы прадукт. Вясновыя вітамінныя салаты зь яе, у якія па смаку можна дабаўляць зялёную цыбулю, кроп, сьмятану або алей, надзвычайна карысны пры цынзе, малакроўі, упадку сіл. У сваёй сям'і на працягу ўсяго лета* ***і да самых замаразкаў*** *мы дабаўляем зоркаўку ў зялёны суп, салаты, пячом піражкі, завараем чай. Загатаўляем таксама на запас: сушым і солім (на паўлітровы слоік дробна нарэзанай і шчыльна зложанай травы прыкладна дзьве сталовыя лыжкі солі).*

*Расьце зоркаўка скрозь: у садах і агародах, на ўзлесках, берагах рэк і яроў. Амаль ва ўсіх артыкулах і кнігах апісаньне яе пачынаецца са слоў: шырока распаўсюджанае пустазельле. А ў мяне язык не паварочваецца вымаўляць гэтае слова. Гэта ж сама Прырода паклапацілася аб нас, шчодрай рукою рассыпаўшы бясцэнныя скарбы!*

***Н. МАКАРЭВІЧ***

***Часопіс „Сьвет" („Чалавек і прырода") № 4/91***

## Кампост

Восеньню, калі зьбіраем насеньне і ўраджай сьлеціўя (гародніны), набіраецца шмат расьлінных адходаў. Усё гэта звычайна палім, закопваем у зямлю ці выносім з агароду ды кідаем абы-дзе. Пасьля ж шукаем гною, каб забясьпечыць зямлю гумусам, перагноем. А з усіх непатрэбных, здавалася б, адходаў можна зрабіць дасканалы перагной. Для гэтага варта толькі наладзіць кампоставы капец.

**Выбар месца.** Кампоставы капец нельга засноўваць у яме. Ён павінен быць заслонены ад пякучага паўдзённага сонца, а таму найлепей вызначыць месца для складваньня адходаў дзенебудзь пад дрэвам, за будынкам ці хоць бы за шчыльным плотам, абы толькі там быў цень. Трэба таксама памятаць, што гніючыя рэшткі ды гной могуць сьмярдзець, а таму капец насыпайце далей ад хаты.

**Памеры капца.** Шырыня кампоставага капца ў ніжняй, шырокай частцы не павінна перавышаць двух метраў, бо неабходна, каб з кожнага боку быў доступ паветра. Тады будуць добра разьвівацца бактэрыі, што спрыяюць перагніваньню расьлінных частак кампосту. Капец не можа быць вышэй 1,5 метра. Даўжыня ж яго залежыць ад колькасьці сабраных адходаў. Можна параіць наступныя памеры прызмападобнага кампоставага капца: 1,5 x 0,75 x 1,2 ці 2,0 x 1,5 x x 1,5 метра.

**Укладаньне капца.** У выбранае адпаведнае месца зьбярэм націньне сьлеціўя (апроч бульбоўніка ды памідорных сьцяблінаў), траву, пустазельле (калі яшчэ не высьпела насеньне), рознае сьмецьце, дзірван, лісьце (абы не дубовае ці альховае), торф, кухонныя адходы (апроч бульбянога лушпіньня). Наогул, чым больш складанак зьбярэм, тым вартасьней будзе кампост.

**Перш, чым пачаць укладаць кампоставы капец, утрамбуйце зямлю. На самы спод пасьцелеце салому, торф, апілкі, каб паглыналіся рэчывы, якія могуць вымывацца з кампосту вадою. Далей укладваюцца кампаненты слаямі таўшчынёю 15–20 сантыметраў і кожны прысыпаецца зямлёю ці торфакрошкай. Добра зробіце, калі адходы будзеце перакладаць гноем з аборы, птушніка ці нават з нужніка, вядома, калі кампост з гэтага капца будзе выкарыстоўвацца не раней чым праз дзьве зімы. Кожны пласт такога „пахнучага" кампанента таксама трэба адразу ж перасыпаць зямлёю ці торфакрошкай.**

**Калі капец будзе насыпаны, яго трэба шчыльна абкласьці торфам ці зямлёю, а наверсе зрабіць равок на ўсю даўжыню кучы, куды будзе налівацца вада (памыі, памыдліны, абы толькі не з пральным парашком).**

**Час „высьпяваньня" кампосту.** Кожны гаспадар, безумоўна, зацікаўлены, каб кампост найхутчэй „высьпеў" і быў найпажыўнейшы для расьлінаў.

**Першай умовай для хуткага перагніваньня расьлінных рэштак зьяўляецца памерная вільготнасьць кампоставага капца. Як ужо згадвалася, з гэтай мэтай мы выбіраем месца ў цяні. Апроч таго, рэгулярна паліваем вадою. Калі ж будзеце паліваць гнаёўкаю, то абавязкова трэба прабіць у капцы шырокія адтуліны, каб прасыціць вадкасьцю ўсю масу кампосту. Вызначыць адпаведную вільготнасьць кампосту можна, калі сьціснуць яго ў жмені: далонь павінна стаць вільготнай.**

Кампост абавязкова трэба перасыпаць, хаця б два разы на год (вясною і пад восень). Перакопваюць яго так, каб ніжні і верхні пласты трапілі ў сярэдзіну. Перасыпаньне кампосту спрые лепшаму раздрабненьню расьлінных частак, насычэньню яго паветрам, што пабуджае бактэрыі да больш актыўнай дзейнасьці. А таму найлепшых вынікаў вы дасягнеце тады, калі будзеце перакопваць кампост часьцей: першы раз праз 1–2 месяцы пасьля таго, як закончылі складваць. Трэба ведаць, што працэсы ў капцы ідуць хутчэй, калі там больш аборнага (каровячага) гною. У далейшым варта перасыпаць кампост кожныя 6 тыдняў: восеньню найпазьней у кастрычніку, вясной жа найраней у красавіку.

Калі будзеце перакопваць кампост, добра было б перасыпаць яго вапнай у колькасьці 4–5 кг на 1 кубічны метар. Вапна мае вялікае значэньне для паляпшэньня стану кампоста, бо нішчыць грыбы-чужапасы (паразіты). Апроч таго, вапна паніжае кіслотнасьць кампосту і ўзбагачае яго хімічны склад. Варта ведаць, што не трэба сыпаць вапну непасрэдна на аборны гной.

### РОЗНЫЯ ВІДЫ КАМПОСТАЎ

**Торфавы кампост.** Не ўсе маюць дастатковую колькасьць разнастайных кампанентаў на кампост. Тым не менш, усе павінны зрабіць тое, што могуць, і правільна закласьці хаця б „малы" кампост. Напрыклад, калі хто мае магчымасьць здабыць значную колькасьць торфу, можа зрабіць торфа-гноевы ці торфа-гнаёўнікавы кампост. На 100 кг торфу (торфакрошкі), у якім арганічныя часткі добра расклаліся, і які мае цёмнакарычневы ці чорны колер, трэба даць 50 кг аборнага гною ці 100 літраў гнаёўкі. На 100 кг торфу, у якім яшчэ можна адрозьніць рэшткі моху, і які паходзіць зь верхавых балотаў, дадаюць 50 кг аборнага гною ці 200 літраў гнаёўкі. Такія кампосты „высьпяваюць" за 6–8 тыдняў.

**Дзірвановы кампост.** Пласт дзірвану кладуць карэньнямі ўніз на лісьце ці салому, якія ізалююць яго ад глебы. Дзірван пасыпаюць вапнай і кладуць яго другі пласт карэньнямі ўверх. На яго сыплюць аборны гной і далей кладуць дзірван. Такі кампост трэба перасыпаць праз 2–3 месяцы. Ён „высьпявае" праз год і найлепей надаецца для высяваньня насеньня і пікаваньня расады.

**Лісьцёвы кампост.** Яго робяць зь лісьця розных дрэў (апроч асінавых ды дубовых), перамешваючы з вапнай колькасьцю 5 кг на 1 кубічны метар лісьця з аборным гноем або з старой кампостнай зямлёю. Кампоставы капец складваецца шчыльна, лісьце зьліваецца вадою, абсыпаецца зямлёю. Такі кампост можна выкарыстоўваць толькі праз 2 гады. Ён надаецца для гадоўлі сьлеціўя і кветак.

**Міхась СЬЛЕТНІК.**

## ВАША ДРЭВА

### Гараскоп друідаў

*Друіды – гэта жрацы кельцкіх плямёнаў, што ў сярэдзіне апошняга тысячагодзьдзя да нашай эры займалі вялікую тэрыторыю паміж Альпамі, Пірэнеямі, Атлантычным акіянам, Рэйнам. Жылі яны і на Брытанскіх астравах. У IУ стагодзьдзі да нашай эры кельты прыйшлі і на тэрыторыю сучаснай Чэха-Славакіі, у Карпаты, дзе і цяпер жывуць бойкі, верагодна, нашчадкі кельцкага племя бойеў. Паводле меркаваньня некаторых беларускіх археолагаў, кельты трапілі і ў Панямоньне, дзе ў Навагрудзкім раёне ёсьць вёска Бойкі.*

*Друіды, апроч рэлігійных абрадаў, выконвалі функцыі судзьдзяў і лекараў, не цураліся і палітычнай дзейнасьці і нават узначальвалі барацьбу з рымскімі захопнікамі. Каб заслужыць права ўвайсьці ў вышэйшую касту, друіды павінны былі на працягу 20 гадоў жыць сярод дзікай прыроды, займаючыся таемнымі навукамі, развагамі (медытацыяй), спасьцігаючы таямніцы і законы прыроды. З асаблівай пашанай яны адносіліся да дрэваў, а чалавека лічылі часткай прыроды, такой жа, як і дрэвы.*

*Зразумела, за столькі гадоў назіраньня жыцьця лесу можна было заўважыць пэўныя асаблівасьці дрэваў, характэрныя і для чалавека. Паводле ўяўленьня друідаў, кожны чалавек мае свайго адпаведніка ў пэўнай пародзе дрэваў.*

*І беларусы, відаць, невыпадкова маюць прозьвішчы, што паходзяць ад словаў дуб, граб, ясень, арэх, бук, вяз ды іншых назваў дрэваў.*

### Арэшнік

*(24 верасьня – 3 кастрычніка)*

Восеньню рэдка хто абміне куст арэшніку ды, як спрадвеку, нарве арэхаў. Здаўна быў распаўсюджаны гандаль арэхамі, а ў старажытным Рыме, напрыклад, кусты арэшніку садзілі на спецыяльных палетках. З

**(Заканчэньне на 12-й стар.)**

# ЯК НАПРАВІЦЬ КОМІН













Каміны звычайна тынкуюць і беляць, бо на белай паверхні лепш відаць шчыліны. А калі тыя настолькі вялікія, што праз іх выходзіць дым, то і курадым лёгка заўважыць. У такім выпадку трэба выскрабці паміж цаглінамі стары раствор і замазаць новым.

Калі драўляныя часткі даху датыкаюцца да коміна, то трэба паміж цаглінамі і дошкамі ўставіць азбеста-цэментную плітку, якая ізалюе дрэва.

Найчасьцей трэскаецца і разбураецца самы верх коміна. Трэба ў такім выпадку разабраць комін да непашкоджанага месца і скласьці яго нанова на цэментным растворы ў прапорцыі 1:3.

Верх коміна не абавязкова выкладаць з цэглы. Яго можна накрыць спецыяльна зробленай бетоннай плітой таўшчынёю 5–6 см.

Навершша коміна можна выканаць непасрэдна на коміне. Вядома, для гэтага трэба зрабіць добрую апалубку з такім разьлікам, каб пліта навісала над сьценкамі коміна на 3 см. Трэба выразаць ці высекчы з кавалка бервяна (можна зьбіць з дошак) затычку памерам, які б адпавядаў ходу коміна.

Вядома, навершша коміна трэба пачынаць, калі добра зацьвярдзее раствор у адноўленых сьценках. Каб яно было больш трывалым, варта зрабіць звязку з дроту таўшчынёю 6 міліметраў.

*I. Вертыкальны разрэз коміна з апалубкай: 1 — комін, 2 — апалубка, 3 — затычка, 5 — адтуліна коміна.*

*II. Гарызантальны разрэз коміна з апалубкай: 6 — адзначана месца, дзе найлягчэй замацаваць апору пад апалубку.*

*III. Гарызантальны разрэз коміна з апалубкай і зьвязкай з дроту: 7 — дрот зьвязкі.*

*IУ. Вертыкальны разрэз коміна з гатовым навершшам.*

**Заўвага.** *На малюнках пададзены памеры ў сантыметрах умоўна.*

## ЗАМАЗКА

Зьмешваем роўную колькасьць (у адпаведнасьці з патрэбамі) чыстай хваёвай смалы і перацёртай на парашок чырвонай гліны (яе варта нат прасеяць праз густое сіта), дадаём трохі солі. У сумесь даліваем вады, каб давесьці яе да гушчыні цеста. Гэтай замазкай шпаклюем шчыліны, трэшчыны, дзіркі. Пад уздзеяньнем высокай тэмпературы печы замазка моцна цьвярдзее.



З дапамогай такой ручной бетонамяшалкі Генадзь Віктаравіч Ельцоў будаваў свой дом.



# Танныя будаўнічыя м

| | Прызначэньне | Трываласьць. Маса | Кампаненты | |
|---|---|---|---|---|
| ШЛАКАБЕТОН | Ваконныя перамычкі<br>Пліты перакрыцьця | 100 кг/см$^2$<br>1400 кг/м$^3$ | Шлак грануляваны<br>Цэмент М 400<br>Вапна (молатая)<br>Вада | 50 л<br>11 л<br>1,7 л<br>8,5 л |
| ШЛАКАБЕТОН | Сьценныя блокі<br>Пасы трываласьці<br>Гзымсы (карнизы) | 40 кг/см$^2$<br>1200 кг/м$^3$ | Шлак грануляваны<br>Цэмент М 400<br>Вапна (молатая)<br>Вада | 50 л<br>4,8 л<br>3,2 л<br>7,5 л |
| ШЛАКАБЕТОН | Блокі для перагародак | 25 кг/см$^2$<br>950 – 1050 кг/м$^3$ | Шлак<br>Цэмент М 400<br>Вапна (молатая)<br>Вада | 50 л<br>3,5 л<br>2,2 л<br>7 л |
| АРГАЛІТ (апілачны бетон) | на сьцены лазьні, на іншыя сьцены, якія будуць абліваццa вадою | 5 – 10 кг/см$^2$<br>500 кг/м$^3$ | Апілкі хваёвыя, сечка з саломы, чароту (тростника) 1–2 см даўжынёю<br>Вапна (молатая ці паленая) ці<br>Гіпс будаўнічы<br>Цэмент М 300<br>Вада | 10 кг<br><br>5 кг<br>5 кг<br>30 л |
| ГЛІНАБЕТОН | Танны цеплаізаляцыйны матэрыял | 5 кг/см$^2$<br>550 – 600 кг/м$^3$ | Апілкі, стружкі<br>Вапна паленая<br>Гіпс будаўнічы<br>Гліна<br>Вада | 200 кг<br>10 кг<br>30 кг<br>300 кг<br>350 л |

# Блок (з шлакабетону, арагліт




Форма для блокаў робіцца разборнай з ліставога жалеза таўшчынёю 1,2—2,5 міліметра (і ўмацоўваецца вугалком), або з тоўстых дошак (абіваецца ўсярэдзіне тонкай бляхай).

Аб'ём блока 37,004 дм$^3$. З агульнага аб'ёму — 19,184 дм$^3$ складае шлакабетон. Аб'ём пустоты — 17,82 дм$^3$, або 48%. Вага сухога блока з бетону — 42,2 кг.

Плошча пустоты 158х208 мм, а ўверсе — 160х210 мм, каб лягчэй было вымаць затычку.

Падрыхтаваў Баляслаў ТУМАШЧЫК.



# Пагрузчык

(Пачатак на 4-й стар.).

трэба прываварыць колца памерам адпаведна конуснаму падшыпніку, бо яно будзе служыць гняздом для падшыпніка. Колца, вядома, прыварваецца да таго боку пласьціны, які будзе звернуты ў сярэдзіну корпуса.

Корпус можна зрабіць і з трубы даўжынёю 120–150 сантыметраў, абы толькі яе дыяметр быў такім, каб трубу можна было пасадзіць на слуп-апору. І ў такім выпадку, зразумела, колца (гняздо для падшыпніка) трэба будзе прываварыць да верхняга канца трубы.

На адлегласьці каля 20–30 сантыметраў ад ніжняй пласьціны трэба прываварыць на вугалку вушкі (кранштэйны) з адтулінамі на шворан (стрыжань), які будзе злучаць стралу з корпусам.

Амаль пад самай верхняй пласьцінай корпуса трэба прываварыць (з таго ж боку, дзе прымацавалі на вугалку ніжнія вушкі) другую пару вушак (кранштэйнаў) на вараток з корбай, з дапамогай якога будзе ўсталёўвацца вышыня стралы. Для блакіроўкі шпулі варатка служыць зубчастае кола з сабачкам (стопарам, храпавіком), або, калі прасьцей, звычайны болт, які будзе закладвацца ў адтуліну ў корбавай ручцы і ў адтуліну ў расьцяжцы, прыварванай да корпуса і да вушак (кранштэйнаў), на якіх мацуецца вараток.

Да верхняй пласьціны мацуем кола з раўком (пазам), на якое будзе апірацца рабочы трос пагрузчыка. На корпусе мацуем таксама кансолі з вугалкоў, на якіх будзе мацавацца прывад з электраматорам. Ён мацуецца на пэўнай адлегласьці ад корпуса, каб мог выконваць ролю супрацьвагі стралы.




Мал. У. Просты зачэп у выглядзе лацінскай літары U: 1 — трос, 2 — зачэп, 3 — шворан, што блакуе ножніцавы механізм самасхвата, 4 — ножніцавы механізм самасхвата, 5 — ланцугі, што злучаюць зачэп з канцамі пашчэнкаў самасхвата.




Мал. II. Корпус пагрузчыка, звараны з вугалкоў: 1 — верхняя пласьціна, да якой зьнізу прыварваецца колца для падшыпніка, 2 — вушкі (кранштэйны) для мацаваньня варатка; 3 — кансолі з вугалкоў, на якіх мацуецца прывад з электраматорам; 4 — вушкі (кранштэйны) з адтулінамі на шворан, які злучае стралу з корпусам; 5 — ніжняя пласьціна з адтулінай на слуп-апору.

**Страла (3).**

З-за вялікага ціску страла павінна быць дастаткова моцнай. Але і таму, што яна доўгая (4–6 метраў), страла не можа быць надта цяжкай. Таму для стралы найлепей падыдзе стальная труба зьнешнім дыяметрам 7–8 сантыметраў.

На ніжнім канцы трубы свідруем адтуліну на шворан (стрыжань), які злучыць стралу з корпусам (праз вушкі). На верхнім канцы прыварваем дзьве накладкі, паміж якімі ўстаўляем кола з раўком (пазам), на якое будзе абапірацца рабочы трос пагрузчыка. Дыяметр кола мае выключнае значэньне для трываласьці троса, бо з-за малой дугі згібу ў тросе пад цяжарам будуць лопацца дроцікі. А таму варта падабраць кола дыяметрам не меней чым 10 сантыметраў. Накладкі на канцы стралы трэба прыварваць з такім разлікам, каб трос, калі ён спаўзе з кола, не мог зашчаміцца ў шчыліне паміж накладкамі і колам (шчыліна павінна быць значна вузейшай, чым трос).

**Трос (4).**

Сталёвы трос, які трымае стралу пагрузчыка на патрэбнай вышыні, з вялікай сілай расьцягваецца, тым большай, чым даўжэйшая страла. Таму трос павінен быць адпаведна моцным, дыяметрам каля 10 міліметраў.

У адметных умовах працуе трос, які падымае самасхват (грэйфер). Яго расьцяжка меншая, але ён выгінаецца на колах. А таму трэба выбраць гібкі, эластычны трос, зьвіты з тонкіх дроцікаў.

**Зачэпны замок (5).**

У самасхваце выкарыстаны ножніцавы прынцып злучэньня пашчэнкаў: яны сьціскаюцца, калі пачынаем узнімаць самасхват. А каб разьвесьці пашчэнкі і апаражніць самасхват, трэба разлучыць зачэпны замок. Тады самасхват завісьне не на шворане ножніцавага механізма, а на ланцугах. А таму, што ланцугі прымацаваныя да асновы, у якую ўстаўлены зубы самасхвата, пашчэнкі расхіляюцца і гной ці салома вывальваюцца.




Мал. III. Зачэпны замок: 1 — корпус замка з ліставога жалеза; 2 — шворан ножніцавага механізма самасхвата; 3 — рычаг, што падтрымлівае шворан ножніцавага механізма; 4 — рычаг, што блакуе шворан.

Зачэпны замок, які злучае трос з самасхватам, павінен мець такую канструкцыю, каб можна было яго разлучыць на адлегласьці, напрыклад, проста пацягнуўшы за шнур.



Мал. IУ. Зачэпны замок у момант разблакоўкі шворня.

Адзін з зачэпных замкоў паказаны на малюнках III і IУ. Але падаецца слушнай і такая прапанова, што не абавязкова разлучаць пашчэнкі самасхвата, калі ён яшчэ вісіць. Можна ж яго апусьціць на воз ці ў скрыню машыны і разлучыць замок толькі тады, калі зьменшыцца напружаньне троса. Калі каго задавальняе такі спосаб разгрузкі, то зачэп можна выканаць з палоскі ліставога жалеза (малюнак У), сагнутага ў выглядзе лацінскай літары U. Такі зачэп будзе мець з кожнага боку па дзьве пары адтулін уверсе і па адной адтуліне ўнізе. Праз гэтыя ніжнія адтуліны будзе ўкладвацца і выцягвацца шворан, які прызначаны блакаваць ножніцавы механізм самасхвата. Разлучэньне пашчэнкаў самасхвата адбываецца простым выцягваньнем шворана з адтулінаў зачэпа.

**Самасхват (грэйфер) (6).**

Самасхват можна зрабіць з сталёвых пруткоў дыяметрам 20 міліметраў або з вугалкоў ці ліставога жалеза. Малюнкі УІ, УІІ і УІІІ даюць уяўленьне пра канструкцыю самасхвата.




Мал. УІ. Самасхват (грэйфер). Шворан ножніцавага механізма заблакаваны ў замку. Ланцугі вісяць свабодна.




Мал. УІІ. Самасхват (грэйфер). Шворан ножніцавага механізма вызвалены з замка. Самасхват павіс на ланцугах, пашчэнкі самасхвата адвольна расхіляюцца і гной ці салома вывальваецца.




Мал. УІІІ. Простая канструкцыя самасхвата з дзьвюма пашчэнкамі: 1 — рычаг пашчэнкі самасхвата з ліставога жалеза 60х8 міліметраў; 2 — зубы (па 4 у кожнай пашчэнцы) з ліставога жалеза 30х8 міліметраў.




Мал. УІІІа. Выгляд канструкцыі зьверху: 3 — частка корпуса самасхвата з вугалка; 4 — раскос з ліставога жалеза.

**Прывад (7).**

Важнай часткай пагрузчыка зьяўляецца прывад (малюнак IX). Складаецца ён з шпулі дыяметрам 15–20 сантыметраў, на якую навіваецца трос перадатачнага механізма (адвольнага тыпу) з пераводам (каэфіцыентам) 1:25 – 30 і рухавіка. Прывад павінен быць зроблены з вугалкоў і замацаваны на асобнай пляскатай раме і прыкручаны шрубамі да кансоляў корпуса пагрузчыка.

Вядома, найвыгадней было б выкарыстаць у прывадзе гатовы перадатачны механізм, напрыклад з чарвячнай перадачай, забясьпечанай дадатковым прывадам паміж рухавіком і перадатачным механізмам, які складаецца з двух колаў (для рамянёвай перадачы) і клінападобнага рамяня.

Дадатнай жа рысай чарвячнай перадачы зьяўляецца яе ўласьцівасьць самагамаваньня, што папярэджвае адкручваньне троса з шпулі пад цяжарам самасхвата пры выключаным рухавіку.

Шматлікія прыклады зробленых аматарамі пагрузчыкаў паказваюць аднак, што можна таксама выкарыстоўваць вельмі просты двухступянёвы перадатачны механізм (першы ступень – клінападобны рамень, другі ступень – зубчатка), які ладзяць з розных стандартных частак, падабраных так, каб забясьпечаны быў патрэбны перавод паміж рухавіком (што мае, напрыклад, 1450 абаротаў на хвіліну) і шпуляй (34–40 абаротаў на хвіліну).

Майструючы перадачу, не варта адмаўляцца ад выкарыстаньня клінападобнага рамяня, які не толькі забясьпечыць пажаданую эластычнасьць у сістэме пераводу прывада, але і стане пры адпаведнай велічыні нацяжэньня своеасаблівым папераджальнікам перацяжкі, якая будзе рэгулявацца прабуксоўкай рамяня ў выпадку празмернай нагрузкі або несвоечасовага выключэньня рухавіка.

Каб запабегчы адвольнаму адматванню нацягнутага троса з шпулі прывада (з рамянёва-зубчатай перадачай), прыладжваем на сярэднім (прамежкавым) вале перадачы буксавы тормаз з памяркоўным прыціскам, устаўлены на стала, або тормаз, які ўключаецца рукой для ўтрыманьня напоўненага самасхвата ў верхнім стане.

**Рухавік і электрарыштунак.**

Для пагрузчыкавага прывада варта выкарыстаць трохфазны электрарухавік магутнасьцю 2,2–3,0 кілавата, які ўключаўся б і выключаўся б пераключацелем (што дае магчымасьць зьмяніць напрамак абаротаў рухавіка).

Спецыфічныя ўмовы работы электрарухавіка патрабуюць спецыяльнага стараннага выкананьня электрарыштунку і супрацьпажарнай бясьпекі. А таму пажадана, каб электраналадку рабіў ці хоць бы наглядаў кваліфікаваны электрык.

Гэтае апісаньне пагрузчыка мы падаем для майстроў, якія ўжо маюць пэўны вопыт у наладжваньні рыштунку з выкарыстаньнем электрарухавікоў, а для майстроў-пачаткоўцаў, а таксама для тых, хто аддае перавагу простаму, а таму больш надзейнаму, абсталяваньню, у будучым нумары падамо адметную канструкцыю.

Апрацаваў З. С.




Мал. IX. Прывад: 1 — шпуля, на якую навіваецца трос; 2 — зубчатая перадача. 3 — рамянёвая перадача з клінападобным рамянём; 4 — буксавы тормаз; 5 — рычаг тормаза; 6 — электрарухавік.

*Як вядома, недахоп вітаміна А выклікае парушэньне зроку, і чалавек захворвае на так званую „курыную сьлепату”. Калі вучоныя пачалі дасьледаваць прычыны, чаму нават даволі вялікія дозы гэтага вітаміна не ратуюць ад хваробы, то высьветлілі, што вінаваты цынк. Менавіта гэты мікраэлемент „кіруе” разьмеркаваньнем вітаміна А, які назапашваецца ў вантробе (печані). А калі цынку не хапае, то гэты вітамін не выкарыстоўваецца арганізмам.*

# Чым карміць мужчыну?

*Ад 1953 года, калі выпадкова выявілася, што лячэньню апёкаў спрыяе цынк, вучоныя зацікавіліся роляй гэтага мікраэлемента ў чалавечым арганізме. Спачатку дасьледавалі хворых і пераканаліся, што найменш цынку знаходзіцца ў людзей, якія пакутавалі на атэрасклероз, хваробы сэрца, алкагалізм, анкалагічныя захворванні. Але недахоп цынку адчувалі і тыя, хто лячыўся карцізонам, хто ўжываў антыкапцэнцыйныя таблеткі, хто харчаваўся салодкімі стравамі, хто любіў перасоленую ежу. І калі, напрыклад, хворым пасьля аперацыі пачалі даваць цынкавыя прэпараты, то раны іх загаіліся ўдвая хутчэй.*

*Але толькі сенсацыйнае паведамленьне доктара А. С. Прэсэда прыцягнула ўвагу медыкаў. Ён напаткаў у адной беднай вёсцы ў дэльце Нілу шмат недарослых мужчын, апатычных, з нізкімі разумовымі здольнасьцямі, з недаразьвітымі палавымі органамі. І калі доктар пачаў лячыць хворых прэпаратамі цынку, то маладыя пацыенты развіваліся згодна з нормай. У тыя ж 60-я гады падобную зьяву напаткалі падчас набору рэкрутаў у іракскае войска.*

*Пазьней дасьледчыкі пераканаліся, што цынк патрэбны для нармальнага росту касьцей, разьвіцьця інтэлекту. Аказалася, напрыклад, што студэнты, якія мелі лепшыя вынікі ў вучобе, мелі і больш цынку у валасох. (Дасьледаваліся валасы, бо гэта найпрасьцей). Відавочна, існуе сувязь паміж фізічнымі ды і разумовымі здольнасьцямі і ўтрыманьнем цынку ў арганізме чалавека. Але не толькі, бо менавіта цынк дае добрыя вынікі пры лячэньні рэдкай хваробы, падчас якой выпадаюць валасы, а скура пакрываецца струпамі. Дарэчы, амаль у кожным выпадку выпадзеньня валасоў ці аблысеньня лячэньне цынкам дае добрыя вынікі.*

*У медыцынскай літаратуры апісаны выпадак лячэньня „цынкавымі” таблеткамі экзэмы ў жанчыны. Такімі ж прэпаратамі ў Швецыі лечаць вугры ў маладых хлопцаў. Хаця большасць дактароў і сьцьвярджаюць, што дыета не мае нічога агульнага з гэтай прыкрай уразай, аднак медыкі з універсітэцкай клінікі ў шведзкім горадзе Упсала даказалі, што здаровы мужчына патрабуе штодзённа 10–20 міліграмаў цынку. І калі яны пачалі даваць пакутуючым ад вугроў па 45 міліграмаў цынку тры разы на дзень, то праз чатыры тыдні 65% пацыентаў мелі здаровую, прыгожую скуру твару, а пасьля дванаццаці тыдняў лячэньня яшчэ 22% хворых пазбавіліся вугроў.*

*Адной з самых прыкрых хваробаў старых людзей зьяўляецца сенілізм або старэчая дэменцыя (старческое слабоумие). Насуперак меркаваньню, што гэта – натуральны працэс старэньня, амерыканскія лекары перакананы, што старэчую дэменцыю можна злагодзіць настолькі, што вернецца памяць, здольнасьць параўноўваць. Механізм уздзеяньня цынку на гэтую хваробу яшчэ невядомы, але некаторыя вучоныя лічаць, што цынк папярэджвае пашкоджаньне капіляраў мозгу.*

*Некаторыя медыкі выказваюць меркаваньне, што большая смяротнасьць немаўлятак і дзяцей мужчынскага полу тлумачыцца патрабаваньнем іхніх арганізмаў на большую колькасьць цынку. Неабходнасьць гэтага мікраэлемента павышаецца і падчас полавага высьпяваньня: ён патрэбны для нармальнага разьвіцьця органаў размнажэньня (асабліва гэта датычыцца хлопцаў).*

*Досьледы на пацуках паказалі, што ўколы з цынкавымі прэпаратамі ў 80% выпадкаў ратавалі іх ад хваробаў прастаты. А таму некаторыя медыкі пачалі лячыць гэтым мікраэлементам таксама і людзей.*

*І няма іншага лепшага спосабу забясьпечыць свой арганізм патрэбным мікраэлементам, як толькі спажываць адпаведную ежу. Дарэчы, не трэба баяцца перабраць дозу цынка (10–20 міліграмаў, як пададзена вышэй), бо шмат навукоўцаў сьцьвярджаюць, што чалавеку трэба яго ў 2–3 разы больш. А да таго ж вядома, што надмер цынку выдаляецца.*

## Утрыманьне цынку ў прадуктах *(у міліграмах на 1 кілаграм)*

*2–8 – маліны, чарніцы, марскія рыбы, худая ялавічына, малако, рыс, буракі, морква, памідоры, бульба, радыска, кава.*

*8–20 – цыбуля, часнок, дрожджы, некаторыя збожжавыя расьліны, яйкі, неабагнаны рыс, рыбныя кансервы.*

*20–50 – мука аўсяная, ячменная, пшанічная грубога памолу, какава, яечныя жаўткі, трусінае і курынае мяса, арэхі, гарох, фасоля, гарбата (чай), сушаныя дрожджы, патака.*

*30–85 – ялавічая вантроба (печань) і значная частка рыбаў.*

*75–140 – большасьць грыбоў, з якіх раіць варта толькі шампіньёны, бо масьлякі, напрыклад, „цягнуць” радыёнукліды.*

*130–202 – пшанічнае вотруб'е і прарошчаная пшаніца (спосаб падаем ніжэй).*

*270–600 – вустрыцы.*

**(Паводле кнігі Ю. Александровіча і І. Гумоўскай „Кухня і медыцына”).**

### СТРАВЫ З ЦЫНКАМ

***Салат з буракоў.*** *Вараныя буракі ababраць, нашынкаваць саломкай, пакласьці слаямі ў салатніцу, перасыпаць іх цёртым хрэнам. Можна пасыпаць цукрам. Салат запраўляецца алеем ці сьмятанай. Калі так падрыхтаваныя буракі, але без цукру, алею ці сьмятаны, заліць марынадам і ў эмаліраваным посудзе паставіць на 2–3 гадзіны, то салат атрымаецца смачнейшым. Марынад рыхтуецца з воцату і прыправаў (гвазьдзіка, карыца, лаўровы ліст, перац-гарошак), даводзіцца да кіпеньня ў закрытым посудзе.*

***Супы.***

***Грыбны.*** *З добра вымытых грыбоў і ярыны (пятрушка-карэньні, цыбуля, морква ды іншыя) зварыць поліўку (бульён), працадзіць, дадаць засмажку, зробленую з мукі (20 г) і масла (40 г). У каструлю пакласьці пакроеныя грыбы, пасаліць і закіпяціць. Перад падаваньнем на стол у суп пакласьці кашу (ячную, грачаную ці адвараныя макароны). Кашу гатуюць так: у вар усыпаць крупы (на 0,5 літра вады 120 г круп), пакласьці масла (20 г), дадаць солі і варыць, спачатку памешваючы, а пасьля накрыць накрыўкай і зьменшыць агонь. Калі крупы будуць гатовыя, высыпце іх на плыткую талерку або на дошчачку і лыжкай ці нажом сфармуйце на тонкі пласт, астудзіце, пакройце на невялікія кубікі.*

***Цыбулевы.*** *150 г цыбулі (падаецца з разьлікам на 6 асобаў) пакроіць тонка і тушыць з 30 г масла. Калі цыбуля будзе мяккая, дадаць 1,5 л поліўкі (бульёну), пасаліць і варыць 20 хвілін, працадзіць або перацерці праз сітка. Падаваць з грэнкамі з аржанога хлеба, у якім таксама нямала цынку. Суп можна заправіць смятанай з жаўткамі вараных яек.*

***Смажаніна з ялавічыны.*** *З тоўстага кавалка мяса (найлепей з паляндвіцы) нарэзаць плястры таўшчынёю 30 мм і лёгка пабіць качалкай да таўшчыні 15–20 мм, надаючы кавалкам круглую форму. Пасаліць, паперчыць і смажыць на патэльні (лепей чыгуннай) малога памеру на працягу 7–15 хвілін у залежнасьці ад густу: хто што любіць – сыраватае мяса ці добра высмажанае. Падаваць варта з смажанай бульбай.*

***Ялавічына, запечаная з цыбулевай падлівай з грыбамі.*** *У дробна пасечаную і злёгку пасмажаную (падрумяненую на масьле) цыбулю дадаць пасечаныя вараныя баравікі або шампіньёны, перац-гарошак, лаўровы ліст і ўсё працягваць смажыць (5–6 хвілін), дадаючы поліўку (бульён), воцат, цукар, соль. Можна падліву зафарбаваць паленым цукрам. (Кухарскія кнігі раяць дадаваць яшчэ белае сухое віно.) У патэльню з гэтай падлівай кладуць дробныя плястры ялавічыны, накроеныя з тушанага вялікага кавалка. Вакол краю патэльні варта пакласьці (выціснуць, выліць кандытарскім шпрыцом) картафлянку (бульбянае пюрэ), стараючыся зрабіць роўны паясок. Мяса пасыпаць цёртым сырам, змешаным з тоўчанымі сухарамі, папырскаць растопленым маслам і паставіць запякацца ў духоўку. Перад падачай на стол аздобіць пятрушкай, укропам.*

### ПРАРОШЧВАНЬНЕ ПШАНІЧНАГА ЗЕРНЯ

*Падрыхтуйце 3 шклянкі з халоднай вадою, але не адразу з-пад крана, а каб трохі пастаяла, падагрэлася да пакаёвай тэмпературы. Калі ў Вас ёсьць некалькі сіткаў да гарбаты (чаю), то можна выкарыстаць іх. Але можна і абвязаць шклянкі кавалачкамі марлі так, каб сярэдзіна была ў вадзе. На марлю насыпаць 1–2 лыжкі пшаніцы з такім разлікам, каб зерне было вільготным. На наступны дзень гэтак жа ставім другую порцыю, а на трэці – трэцюю. Праз тры дні пачне прарастаць зерне з першай шклянкі. Калі расткі будуць даўжынёю 3 міліметры, іх можна ўжываць у ежу. (У шклянку падсыпаем новую порцыю). Прарошчаная пшаніца вельмі багатая вітамінам Е, цынкам, клятчаткай.*

### РЭЦЭПТ АМАЛАДЖЭНЬНЯ

У 1971 годзе супрацоўнікі Юнэска знайшлі сярод руінаў старажытнага манастыра гліняныя таблічкі, на якіх быў запісаны рэцэпт амаладжэньня.

250 г часныку расьцерці ў гліняным посудзе качалкаю, заліць 300 г спірту, шчыльна закрыць (можна ў шкляным посудзе) і трымаць у халодным месцы 10 дзён. Затым утварыўшуюся масу працадзіць праз шчыльную тканіну, адцісьнуць. Вадкасьць вытрымаць яшчэ 3 дні, пасля чаго яна гатова да ўжывання.

Курс лячэньня: у чвэрць шклянкі малака дадаваць настой (павялічваючы колькасьць кропляў па схеме) і прынімаць за 15–20 хвілін перад ядою.

| Дні | Колькасьць кропель | | |
|---|---|---|---|
| | снеданьне | абед | вячэра |
| 1 | 1 | 2 | 3 |
| 2 | 4 | 5 | 6 |
| 3 | 7 | 8 | 9 |
| 4 | 10 | 11 | 12 |
| 5 | 13 | 14 | 15 |
| 6 | 15 | 14 | 13 |
| 7 | 12 | 11 | 10 |
| 8 | 9 | 8 | 7 |
| 9 | 6 | 5 | 4 |
| 10 | 3 | 2 | 1 |
| 11 | 25 | 25 | 25 |

**І так далей, пакуль не скончыцца настой.**

Паўтарыць курс лячэньня можна не раней, чым праз 5 гадоў.

Гэты сродак ачышчае арганізм ад тлушчавых і вапнавых адкладаньняў, палепшвае агульны абмен рэчываў у арганізме, павышае эластычнасць крывяносных сасудаў, што перасцерагае ад інфаркта міякарда, склероза, параліча, утварэньня розных пухлін, палепшвае зрок.



# МОДА. ОСЕНЬ 1991

*По предсказаниям авторитетных центров моды, следующее десятилетие внесет перелом в устоявшиеся взгляды. Мода будет меняться медленнее, перемены в ней будут менее заметными и более осторожными, чем сейчас. Современная мода призывает к умеренности, сдержанности, бережливости. Одежда перестает быть символом статуса, общественного положения, она демонстрирует лишь личное отношение к моде и, главное, – индивидуальный вкус.*

*В общем, все подчинено комфортности, удобству. А сейчас некоторые акценты моды.*

**Силуэт** *– прямой: короткий, квадратный или удлиненный, летящий; трапеция – это авангард!*

**Плечи** *– округлые, с небольшими подплечиками или совсем пологие, как в 60-е годы.*

**Рукава** *– вшитые в незначительно углубленную пройму, кимоно, свободно заниженный реглан.*

**Детали** *– крупные. Большие (или средние) мягкие воротники, на рукавах широкие манжеты. Крупные пуговицы, нередко обтянутые (ткань и кожа). Разнообразие декоративных элементов: отделка широкой строчкой 2–3 см от края, многообразие параллельных строчек на деталях – воротниках, клапанах карманов, низе рукавов, манжетах; обилие пуговиц в молодежной одежде.*

*Осенняя мода подтверждает желание человека обрести более тесную связь с природой. Общая картина моды меняется мало, новое касается, главным обра-*

# СТРОЙ



зом, деталей и манеры ношения одежды. Мирно сосуществуют очень разные стили и силуэты, они свободно соединяются и комплектуются, одежда проста и естественна.

В связи с тем, что вся одежда делится на большие ассортиментные группы, то хотелось бы вкратце остановиться на них.

Какие же основные моменты в моде „Осень-91"?

Пальто свободны и удобны, они как бы обволакивают тело. В моде пальто А-силуэта длиной до колен или ниже икр, а также прямой в 3-м варианте, как отмечалось выше.

Из-под большого свободного пальто часто мелькает мини-юбка, либо туника и рейтузы. В моде также накидки и пончо. Часто можно видеть детали форменной одежды: воротники-стойки, погоны, металлические пуговицы.

В широком аспекте в моде можно выделить два основных контрастных направления.

**Первое**, характерное для молодежной одежды, отличает маленький силуэт – облегающий. Это мини-юбка, мини-бермуды (или юбка-шорты) или вязаная кофта длиной с платье, под нею гетры или облегающие рейтузы – вот основные предметы модного девичьего гардероба. Брюки снова заужены внизу, сверху – маленький жилет или мягкий джемпер.

**Второе** направление моды делает ставку на мягкость и женственность. Здесь юбки подчеркнуто длинные, до щиколоток, брюки на завышенном притачном поясе, книзу расширенные. Заметно желание создать впечатление, будто имеем дело с ручной работой – жакеты и джемперы украшают вязанием крючком, кружевом и вышитыми воротниками. Популярный вновь народный стиль представляет именно это направление моды.

Если же в настоящей моде попытаться найти нечто совершенно новое, то это будет **туника** удобного А-силуэта, которая может быть с поясом или без него, носят ее, как и прежде, с брюками.

Если говорить о **нарядной одежде**, то она либо женственно мягка и обтекаема, либо на восточный манер экзотична и сверкающа. **Женственный стиль** предпочитает мягкие просвечивающиеся ткани, драпированные вырезы и юбки, банты и кружева. **Экзотический стиль** – роскошные вышивки, сверкающие материалы, „золотую" отделку – канты, тесьма, металлические пуговицы, стразы, кайстки, кожа. Ткани легкие, прозрачные, шелковые, легко драпирующиеся, и, наряду с ними, плотные, торчащие шелковые, которые помогают создавать форму юбки-пачки, а также поддерживать отметные пространственные детали (воротники, драпированные баски, воланы, манжеты). Очень много для нарядной одежды применяется кружевного полотна в сочетании с бархатом, плотным шелком, трикотажными полотнами, в некоторых из них широко используется металлическая нить, создавая эффект переливчатости и блеска. Много эластичного трикотажа с нитью спандекс (резиновая „жилка").

Цветовая палитра разнообразна и богата. Вновь входят в моду синий и серый, новинкой являются глубокие коричневые, темно-красные, зеленые и лиловые тона. С ними соседствуют по-прежнему насыщенные оранжевые, ржаво-коричневые, ярко-фиолетовые, желтые и ярко-красные цвета.

В осенней моде как ткани, так и вещи свободно и широко комбинируются друг с другом. Это следует учитывать прежде всего в дневной одежде. В комплектной одежде охотно используют в отделке бархат и вельвет в виде аппликации или большими блоками (деталями),вышивку, бродеры и декоративную тесьму.

Нельзя не остановиться на мужской одежде. Мужская одежда остается классической и деловой. Так, для пальто рекомендуется спокойная умеренная длина и прямой силуэт. Новинкой здесь является воротник из другого материала. Новое можно обнаружить и в крое пиджаков. Предполагаются, например, пиджаки прилегающего силуэта с тремя пуговицами, короткими лацканами в стиле моды „ретро" – прошлых десятилетий. По-прежнему актуальны знакомые по предыдущим годам пиджаки на одно- или двубортной застежке, и прямые либо слегка зауженные книзу брюки.

Произведя небольшой обзор моды, снова возвращаемся на осеннюю улицу. Одежда создает настроение. Сегодня мы можем сказать, что мода последних лет дала женщине возможность почувствовать себя молодой, раскованной и независимой. Так, внешне это выразилось в простоте моделей, отказе от явного украшательства, стирания граней между юношеским костюмом и одеждой для людей среднего возраста. И это не лишило моду разнообразия – даже в тех случаях, когда мода возвращается к старым своим находкам и идеям. Тогда она непременно вносит в нее нечто совершенно новое.

Дело в том, что **костюмы** никогда не выходили из моды, а всегда представали перед нами в новом облике. В нем прежде всего изменились пропорции – акцент делается на талии, плечи не столь расширены. **Очень важная подробность:** одежда прилегает к фигуре ровно настолько, чтобы форма костюма осталась достаточно свободной.

Прошло время дискутировать о длине одежды, о том, что можно и чего нельзя, и в каком возрасте. Сама женщина завоевала право на выбор. Но все-таки следует избегать длины до середины голени, она неудачна. Знаменитая Габриэль Шанель называла ее даже „эстетическим преступлением". Раз и навсегда стоит решить для себя: если колени некрасивы, то не надо их открывать. Мода давно не диктует, а предлагает свои идеи.

Итак, определив основные пропорции костюма, выбрав цвет – любимый или который больше вам идет, – подумайте о том, каким украшением вы дополните свой наряд. Пусть оно будет достаточно крупным, заметным: цветок, бант, бусы. Такое пятно поможет собрать и „держать" все другие элементы костюма, подобно тому как замковый верхний камень в арке держит остальные.

Сегодня часто говорят, что женщина должна сама искать, создавать и совершенствовать свой образ. Но при этом, конечно, следует руководствоваться здравым смыслом и не забывать о том, что образ и стиль, предлагаемый самой модой, изменяют и саму женщину – ее манеры, поведение.

Костюм по-прежнему составляет основу гардероба женщины (по крайней мере, должен составлять). Удобный, универсальный, любимый женщинами любого возраста и комплекции, он устойчиво противостоит тем недолговечным модным новинкам, за которыми невозможно угнаться. Достаточно дополнить хороший классический костюм двумя-тремя модными дополнениями – и вы почувствуете себя одетой на уровне требований сегодняшнего дня.



**Любимым стилем остается классический.** О нем мы поговорим в следующий раз.

А в чем же выразится мода в костюме? Прежде всего – во все еще удлиненной линии плеч: но у одного костюма она плавная, обтекаемая – это за счет кроя рукавов: реглан-погон, реглан, цельнокроеные, полуреглан; у другого же – прямая, четкая – втачные рукава. И в том, что узкая юбка – довольно короткая, а более длинная юбка соединена с удлиненным жакетом, мягко облегающим бедра. Очень популярна юбка на кокетке с мягкими или четкими складками по низу или плиссировкой.

Ощущение новизны создают также головные уборы, модная обувь, изящные сумки-конверты. И даже манера ношения жакета – подтягивая рукава, как будто это джемпер, – тоже дань моде. Как видите, старому доброму классическому костюму ничто новое не чуждо.

Вы всегда носите классический костюм? Пожалуй, это скучно! И мы предлагаем молодым женщинам немного поэкспериментировать с ним, оставив верхнюю его часть вполне „добропорядочной". (Разумеется, для того, чтобы носить „результат" подобного эксперимента, не нужно слишком серьезно относиться к традиционному женскому костюму). Это, например, изменение формы костюма за счет расклешения жакета от линии талии книзу в виде баски; вставки клиньев годе в вертикальные швы (и оформление их бантами) и плиссированные вставки; фигурное оформление низа – в виде жилетной обрезки низа бортов, оформление низа углами, закругление низа на спине по среднему шву, оформление горловины под горлышко без воротника. Интересной является идея дополнения классического жилета юбкой с двумя оборками длиной до колена, задавая романтичный, игривый тон костюму.

И в заключение хотелось бы отметить, что в моде существует элемент игры, мода не является диктатором, а дает лишь пищу для творчества, для самовыражения, и мы поможем вам разобраться в этом. Так как модная одежда – это хорошее настроение, это ваш „имидж".


Галина МЕШКОВА,
художник-модельер
Белорусского центра
моды.



У наступным нумары: Шыйце самі.




# БЕЛАРУСЫ-ВЫНАХОДНІКІ



## «Электрычны чалавек»

Амаль сто гадоў таму ў айчынных і замежных газетах даволі часта можна было напаткаць паведамленьні аб навуковай дзейнасьці Якуба Наркевіча-Ёдкі. А ў 1896 г. у Парыжы выйшла кніга Марыуса Дэкрэпа *„La vie et les oeuvres de M. Jacques de Narkiewicz-Iodko"* (Жыцьцё і дзейнасьць Якуба Наркевіча-Ёдкі").

MARIUS DECRESPE

LA VIE & LES ŒUVRES

DE

M. DE NARKIEWICZ-IODKO

MEMBRE ET COLLABORATEUR
DE L'INSTITUT IMPÉRIAL DE MÉDECINE EXPÉRIMENTALE
DE SAINT-PÉTERSBOURG
MEMBRE CORRESPONDANT DE LA SOCIÉTÉ DE MÉDECINE
DE PARIS
ETC., ETC.

Avec son Portrait photogravé



1896

CHAMUEL EDITEUR
5, rue de Savoie, 5
PARIS

Нарадзіўся будучы вучоны ў 1847 г. у вёсцы Турын Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Чэрвеньскі раён). У канцы 1867 г. пасьля заканчэньня Мінскай гімназіі Наркевіч-Ёдка накіроўваецца ў Еўропу, каб пашырыць і ўдасканаліць сваю адукацыю. Ён слухае лекцыі па фізіцы, прыродазнаўству, медыцыне ва універсітэтах Вены, Фларэнцыі, Парыжа. Адтуль Якуб вярнуўся ў бацькаў маёнтак Над-Нёман, які знаходзіўся каля вытокаў Нёмана, дзе пачынае актыўна гаспадарыць. Жадаючы больш эфектыўна і рацыянальна выкарыстоўваць зямлю, малады вучоны імкнуўся вывучаць атмасферныя зьявы і іх уплыў на ўраджайнасьць палёў. Па яго ініцыятыве і на яго ўласныя сродкі былі створаны першыя ў Мінскай губерні метэаралагічныя станцыі (Над-Нёман, Атонава).

Неўзабаве зьяўляюцца першыя навуковыя працы Наркевіча-Ёдкі, якія друкаваліся ў рускіх і замежных навуковых выданьнях. За пасьпяховую распрацоўку праблемаў кліматалогіі ён быў абраны ў 1882 г. членам-карэспандэнтам Цэнтральнай абсерваторыі ў Санкт-Пецярбургу. Вучонаму належыць вынаходніцтва лізіметра – прыбора, пры дапамозе якога вызначаюць ступень вільготнасьці глебы. На падставе шматлікіх эксперыментаў Наркевіч-Ёдка прыйшоў да высновы, што выкарыстаньне градаадводаў (маланкаадводаў) дазваляе істотна зьменшыць магчымасьць выпадзеньня граду на палеткі. Даследчык распрацаваў метад вызначэньня хуткасьці руху воблакаў і пры дапамозе спецыяльнага апарату мог прадказаць набліжэньне навальніцы на адлегласьці да 400 кіламетраў. Якуб Антонавіч быў адным з ініцыятараў вядомага навуковага выданьня „Метеорологический вестник". Яго дзейнаьсць была адзначана сярэбраным медалём Рускага геаграфічнага таварыства.

І ўсё ж галоўным аб'ектам увагі вучонага была электрычнасьць, а дакладней – узьдзеяньне электрычнасьці на расьліны і жывыя арганізмы. На асобных дзялках зямлі Наркевіч-Ёдка праводзіў досьледы з выкарыстаньнем электрычнага току. Даследчык выявіў, што ўраджайнасьць там была больш высокая, чым на звычайных. Гэта адбывалася таму, тлумачыў вучоны, што электрычны ток стварае больш аптымальныя ўмовы для таго, каб расьліны маглі засвойваць неабходныя ім хімічныя элементы, што знаходзяцца ў глебе.

Найбольшую папулярнасьць Наркевічу-Ёдку прынесьлі яго эксперыменты **па выкарыстаньню электрычнасьці ў медыцыне.** На тэрыторыі маёнтка Над-Нёман быў створаны санаторый, які займаў больш чым 200 гектараў. Тут былі пакоі для хворых, памяшканьні для адпачынку, парк, мінеральныя крыніцы, дзьве лабараторыі. Наркевіч-Ёдка быў адным з першых, хто пачаў дыягнасьціраваць і лячыць некаторыя нервовыя захворваньні шляхам узьдзеяньня электрычных токаў на арганізм пацыента, г. зн. прымяняў метад лячэньня, які сёньня вядомы ў медыцынскай практыцы як электратэрапія. Акрамя гэтага, курс лячэньня ўключаў таксама масажы, прагулкі на сьвежым паветры, спажываньне мінеральнай вады, гімнастыку і іншыя працэдуры.

Медыцынская дзейнасьць нашага земляка прыцягнула ўвагу грамадскасьці і спецыялістаў. Вучоныя Францыі, Італіі, Германіі і іншых краінаў зьвярталіся да яго з просьбай прыехаць азнаёміць іх з навейшымі на той час метадамі лячэньня. 23 сьнежня 1892 г. Наркевіч-Ёдка выступіў з дакладам **„Суадносіны электрычнасьці і псіхалогіі"** на пасяджэньні італьянскага медыка-псіхалагічнага таварыства ў Фларэнцыі. Выступленьне мела самыя высокія водгукі і ацэнкі спецыялістаў. Прапанаваныя Наркевічам-Ёдкам спосабы электралячэньня сталі практыкавацца ў Італіі пад назвай „сістэма Ёдкі", а яе вынаходцу было прысуджана званьне ганаровага сябра Італьянскага медыка-псіхалагічнага таварыства і дыплом па медыцыне і псіхалогіі.

Посьпех, прызнаньне і папулярнасьць спадарожнічалі вучонаму ў яго паездках і выступленьнях перад кампетэнтнымі аўдыторыямі ў Берліне, Парыжы, Вене...

Марыус Дэкрэп – аўтар згаданай кнігі пра Наркевіча-Ёдку – з захапленьнем піша аб яго **незвычайнай здольнасьці арганізаваць свой час**. Гэты чалавек пасьпяваў усюды: выступіць перад самымі выдатнымі вучонымі, пабываць у хворых, працягваць свае досьледы, пісаць лекцыі, рыхтаваць сваіх пасьлядоўнікаў і весьці шырокую перапіску.

*Наркевіч-Ёдка,* – пісаў французскі аўтар, – *карыстаецца ў сябе на радзіме такой жа папулярнасьцю, як Л. Пастэр у Францыі".* Сапраўды, вучоны не быў абойдзены ўвагай і ў Расіі. Ён зьяўляўся членам-супрацоўнікам Імператарскага Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Санкт-Пецярбургу. Чытаў лекцыі па медыцыне ў Пецярбургскім універсітэце, быў сябрам навуковых таварыстваў па антрапалогіі, ахове народнага здароўя, фізіцы, хіміі ды інш. У 1900 г. малады вучоны за высокія навуковыя дасягненьні быў узнагароджаны ордэнам Сьв. Ганны II ступені.

Даволі сістэматычна інфармавала сваіх чытачоў аб дзейнасьці Наркевіча-Ёдкі газета „Віленскі веснік". Так, у нумары 183 за 1894 г. газета зьмясьціла вялікі артыкул пад загалоўкам „З жыцьця і навукі". Яго аўтар, нехта М. Б., дзеліцца сваімі ўражаньнямі ад сустрэчы з „шаноўным вучоным", якая адбылася ў Вільні. Аўтар „зь меркаваньняў далікатнасьці" не завастрае сваю ўвагу на характарыстыцы чалавечых якасьцяў Наркевіча-Ёдкі, хаця адзначае, што мянушка, якую надалі яму французы – *„l'homme elektric"* („электрычны чалавек") – пасуе яму як нельга лепш". Далей у артыкуле папулярна пераказваліся вынікі некаторых навуковых эксперыментаў Наркевіча-Ёдкі.

Маюцца зьвесткі, што з навуковымі працамі Наркевіча-Ёдкі знаёміліся і з прыхільнасьцю выказваліся пра іх такія вядомыя вучоныя, як А. Ваейкаў, В. Дакучаеў, Д. Мяндзялееў, І. Паўлаў.

Памёр гэты цікавы чалавек, таленавіты даследчык і эксперыментатар 6 лютага 1905 г. далёка ад роднай зямлі, – у Вене, куды ён прыехаў для чарговых выступленьняў з паведамленьнямі аб сваіх досьледах. Пазьней цела нябожчыка было перавезена і пахавана на радзіме.

Газета „Северо-Западный край", шмат у чым паўтараючы думку Марыуса Дэкрэпа пра Наркевіча-Ёдку, пісала ў некралогу: *Ён не любіў ні славы, ні метафізічнай лухты... Ён быў далёкі ад эмпірычнага пазітывізму і містычных утопій... Шматлікія яго працы, якія ўсебакова асьвятляюць розныя пытаньні навукі, маюць важнае значэньне як параўнальна каштоўны ўклад у скарбніцу чалавечых ведаў".*

**Леанід КАЗЫРА.**

**Ад рэдакцыі.** Больш падрабязна пра жыцьцё і дзейнасьць Якуба Наркевіча-Ёдкі распавядаецца ў кніжцы серыі **„Нашы славутыя землякі"** выдавецтва „Навука і тэхніка": *Грыбкоўскі В. П., Гапоненка В. А., Кісялёў У. М.* ***Прафесар электраграфіі і магнетызму.*** *Мн., 1988.*

# ВАША ДРЭВА

(Пачатак на 5-й стар.)

арэхаў і цяпер выціскаюць алей, які доўга не высыхае. Кельцкія жрацы лічылі, што людзі, адпаведнікі арэшніку, не надта прыглядныя, але затое маюць велізарны ўплыў на блізкіх. Аварожлівасьць арэшніка амаль магічная, і ўсе ёй паддаюцца. Такія людзі ўмеюць падабацца, умеюць дамагчыся, каб імі захапляліся і кахалі іх. Але і яны самі вельмі зычлівыя да людзей, шчодрыя і цярплівыя. І калі ўжо арэшнік упадабае каго-небудзь, то зробіць усё, каб таго ашчасьлівіць. Але душэўнай раны ён не прабачыць, а таму можа быць небясьпечным.

## Арабіна

*(4–13 кастрычніка)*

Гэтае дрэва з гронкамі белых духмяных кветак вясною ці чырвоных ягадаў увосень і ўзімку прываблівае да сябе і пчолаў, і птушак, і людзей. Кельцкія жрацы друіды лічылі, што і людзі, якія нарадзіліся 4–13 кастрычніка, – прыгожыя, спакойныя, шчодра адораныя прыродай featuring рознымі талентамі. І як арабіна не баіцца марозу, так і яны моцныя, стойкія і мужна супроцьстаяць жыцьцёвым бурам і віхурам. Яны не сябелюбцы, але прагнуць прыцягваць да сябе ўвагу. І ў той жа час людзі-арабіны любяць рух, неспакой, і нават перашкоды і цяжкасьці ў жыцьці. Адносіны з такімі людзьмі ўсё ж нялёгкія, таму што арабіны схільны ўсё ўскладняць. Друіды не раілі расчароўваць арабіну, бо гэтага яна не даруе.

А вы не разачаруецеся, калі пасьля першых прымаразкаў нарвяце ягадаў арабіны: у іх шмат каратыну, вітамінаў С і Р, дубільных рэчываў, што знішчаюць бактэрыі ў вашых нырках, цукру сарбіту, які не ферментуецца, яблычнай і лімоннай кіслаты.

## Клён

*(14–23 кастрычніка)*

Клён мае цьвёрдую і трывалую драўніну, з якой раней выраблялі дзіды /коп'і/, а цяпер – дэталі музычных інструментаў ды мэблю. Гэтае дрэва садзяць у нас выключна для аздобы, хаця клён лічыцца добрым меданосам, а ў Канадзе, напрыклад, з яго соку робяць цукар.

Людзі з-пад „знаку" клёна разважныя, клапоцяцца пра свой вонкавы выгляд, любяць бываць там, дзе найцікавей, дзе бываць прэстыжна, модна. Людзі-клёны не належаць да звычайных, „сярэдніх" людзей: поўныя энергіі, моцы ды вынослівыя, яны могуць супроцьстаяць усім і ўсяму. Яны – індывідуалісты, нават самалюбы і, хоць адносна нясьмелыя, могуць рашыцца на дзёрзкі ўчынак, хаця і не з-за матэрыяльных выгодаў ці карысьці. Такія людзі любяць быць наперадзе, маюць шмат цікавых помыслаў, але рэдка калі могуць выканаць іх уласнымі намаганьнямі. Клёну дастаткова, каб пра яго гаварылі, нават калі выказваюць і непрыхільныя меркаваньні. У каханьні такія людзі паводзяць сябе неардынарна, любяць хадзіць непрадбачанымі шляхамі. А да таго ж маюць ясны і праніклівы розум, інтуіцыю і пачуцьцё гумару.

## Завяла белая ружа

*Нямецкая газета „Астровохе" прапанавала сваім чытачам напісаць пра звышнатуральныя зьявы, зь якімі ім самім давялося сутыкнуцца ў жыцьці. Прыйшло шмат лістоў. Людзі распавядалі і пра шчасьлівыя здарэньні, якія часам нават засьцерагалі чалавека ад сьмерці.*

*Вось адна з такіх гісторыяў.*

*Вімма Эрбен, 34-гадовая ўдава з Візбадэна, не забывалася пра свайго мужа Ганса-Юргена. Перад ягонай фатаграфіяй заўсёды стаяла сьвежая белая ружа, ягоная любімая кветка. Аднойчы ў пятніцу маладая ўдава спратвала ў кватэры. Яна прайшлася па пакоі з анучай, выціраючы пыл, і раптам вельмі напалохалася: белая ружа на яе вачах завяла, скурчылася. Унутраны голас падказаў удаве: „Ідзі хутчэй, прынясі новую ружу, сьпяшай!" Вімма Эрбен выбегла з дому. Калі яна была ўжо ў кветкавай краме, яна пачула жудасную дэтанацыю: газавы выбух. Дом, у якім жыла маладая ўдава, быў напалову разбураны. Ад яе кватэры амаль нічога не засталося...*

*У сваім лісьце ўдава ўпэўнена пісала: „Гэта быў добры дух майго мужа, які прымусіў завянуць ружу. Ён знаў, што будзе выбух і не хацеў мяне палохаць".*



**Перакладзіце на беларускую мову прыведзеныя словы і запоўніце клеткі малюнка.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Боров. 6. Совет. 8. Растение. 9. Насадка. 10. Шайка. 11. Просветительница. 14. Оскорбление. 16. Лужа. 18. Тяпка. 20. Победа. 21. Подснежник. 23. Мерёжа. 24. Новость. 26. Улитка. 29. Подсолнух. 31. Багрец. 32. Покушение. 33. Беседа. 34. Заблуждение. 35. Повод, случай.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Ком (затвердевшей земли). 2. Лохань. 3. Должность. 4. Стул. 5. Беседка. 6. Перловый суп. 7. Украшения. 12. Сторож. 13. Племянник. 15. Батенька. 17. Горечь. 18. Горшок. 19. Камыш. 22. Сумерки. 24. Совещание. 25. Оттепель. 26. Амбар. 27. Копоть. 28. Плесень. 30. Упрёк.

**Склаў Іван КУРБЕКА**

„Гаспадар".
Адрас. 225320, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.
МП „Альфа-Прінт" ЛВА „Эридан".
Выдаўцы: В. Д. Ігнаценка і М. І. Нудзьга.

Над выпускам працавалі: Ядвіга Бутрым, Вольга Віннічак, Марыя Грэчушкіна, Галіна Гурына, Аляксей Белы, Аляксандр Бруханаў, Міхась Шостак, Здзіслаў Сіцько (рэдактар). Аўтар шрыфтоў назвы газеты і назваў раздзелаў Уладзімір Крукоўскі.

Паліграфічныя работы выкананы МП „Альфа-Прінт" ЛВА „Эридан".
Падпісана да друку 3.10.91 г., заказ 1745, наклад 999.
Цана 1 руб.